


Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 12 (4915) 24 сакавіка 2017 г.




# ЖЫЦЬ ТЭАТРАМ

## прапануе Міжнародны моладзевы форум «M.@rt.кантакт» у горадзе на Дняпры

**Магілёву выключна пашчасціла мець такое прыгожае сакавіцкае свята. У дні форуму тут канцэнтруецца столькі цяпла, усмешак, станоўчых эмоцый, што не заўважаеш ні халоднага дажджу са снегам, ні навіслыя над горадам свінцовыя хмары. Гэта свята можна назваць нават сямейным, бо ў такой цудоўнай атмасферы вельмі лёгка знаходзіць сяброў, агульныя тэмы.**



*Фота БелТА.*

*Сцэна са спектакля Расійскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра драмы імя Ф. Волкава (Яраслаўль) «Месяц у вёсцы».*

— Вельмі прыемна, што менавіта тут, у Магілёве, перасякаюцца тэатральныя традыцыі розных краін. Падлічана, што за час існавання форуму тут пабывалі тэатральныя калектывы болей чым з 160 краін свету. Арганізатары імкнуцца прадставіць публіцы цікавыя пастаноўкі, якія беларускаму гледачу не вельмі знаёмыя. Удзел у форуме — добрая прыступка для тэатрала, які толькі пачынае, — адзначыла намеснік міністра культуры Ірына Дрыга.

Разам з намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама Андрэем Кунцэвічам яна адкрыла тэатральнае свята і перадала ўдзельнікам форуму і яго гледачам віншаванні ад міністра культуры Барыса Святлова, які пажадаў творчасці і натхнення, больш яркіх эмоцый і асалоды ад прагляду.

У першы дзень форуму адбыліся адразу два «кантакты» — з артыстамі казахскага тэатра «Жас Сахна» на сцэне тэатра лялек і тэатра драмы імя Ф. Волкава з Яраслаўля ў сценах абласнога драмтэатра. Усяго за тыдзень форуму будзе паказана 22 пастаноўкі 20 тэатраў з 10 краін свету: Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Казахстана, Арменіі, Грузіі, Аўстрыі, ЗША. Апошнія тры трапілі на фестываль упершыню. Акрамя насычанай тэатральнымі пастаноўкамі праграмы запланаваны майстар-класы, выстаўкі, прэзентацыі і іншыя не менш цікавыя мерапрыемствы.

— У афішы шмат моладзевых калектываў, ёсць нават дыпломныя спектаклі, — адзначыў дырэктар Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Андрэй Новікаў. — Робім усё, каб форум станавіўся цэнтрам прыцягнення маладых творчых сіл. Гэта і маладыя журналісты, і фатографы, і мастакі — усе, каму ён падабаецца. Фестываль служыць для фарміравання тэатральнага густу, мы стварылі сабе вельмі моцнага канкурэнта ў выглядзе фестывалю і павінны цяпер шмат працаваць, каб успрымацца годна і канкурыраваць з тым эстэтычным і мастацкім узроўнем, які прапануе фестываль. Але наш тэатр апошнія 6 гадоў з'яўляецца лаўрэатам Нацыянальнай тэатральнай прэміі (у Беларусі няшмат тэатраў, якія маюць такія дасягненні).

Працяг на стар. 2 ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з днём нараджэння Мітрапаліта Філарэта, пачэснага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. «Многія гады Вы прысвяцілі ўмацаванню ў грамадстве высокіх ідэалаў, сапраўднага гуманізму і маральнасці, — адзначыў кіраўнік дзяржавы. — Нястомна накіроўвалі свае сілы на захаванне міру і згоды ў нашай краіне, зацвярджэнне хрысціянскіх каштоўнасцей, адраджэнне і прымнажэнне праваслаўных традыцый».

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Беларусі Людмілу Яфімаву з юбілеем. «Ваша шматгадовая плённая дзейнасць з'яўляецца яркай старонкай у гісторыі музычнага мастацтва краіны. Пад вашым кіраўніцтвам Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы набыла шырокую вядомасць і прызнанне як у Беларусі, так і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што запамінальныя выступленні праслаўленага калектыву і далей будуць прыцягваць шматлікіх слухачоў, спрыяць захаванню і папулярызацыі айчыннай песеннай спадчыны.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў рэдакцыі «Гомельская праўда» са 100-годдзем выхаду ў свет першага нумара газеты. «Па папулярнасці і тыражу ваша выданне — адно з лепшых у беларускай рэгіянальнай перыёдыцы. Стабільная, верная чытацкая аўдыторыя — вельмі важны капітал, які вы імкнецеся захаваць і прымножыць сваім прафесійным майстэрствам», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што адданасць лепшым журналісцкім традыцыям дае магчымасць калектыву пастаянна быць у цэнтры падзей, ісці ў нагу з часам, узнімаць актуальныя праблемы жыцця вобласці і ўзважана іх ацэньваць.

✔ Міністэрства інфармацыі прымае заяўкі на ўдзел у рэспубліканскім конкурсе «Нацыянальная літаратурная прэмія-2017» да 1 ліпеня. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюць пісьменнікаў — аўтараў літаратурных твораў, выдадзеных у 2016 годзе. Конкурс праводзіцца па сямі намінацыях. Заяўкі прымаюцца ад фізічных асоб — аўтараў твораў або іх афіцыйных прадстаўнікоў, а таксама ад творчых саюзаў, выдавецтваў, рэдакцый СМІ, арганізацый культуры, устаноў адукацыі і навуковых арганізацый. Прызы — сімвалы конкурсу, дыпломы і грашовыя прэміі будуць уручаны пераможцам 2 — 3 верасня ў Полацку падчас святкавання XXIV Дня беларускага пісьменства.

✔ Зборнік перакладаў вершаў Максіма Багдановіча на іспанскую мову плануецца выдаць у 2017 годзе, паведамілі ў Пасольстве Беларусі ў Іспаніі. Днямі ў кафэ *Cosmico*, у цэнтры Мадрыда, адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная творчасці класіка. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі беларускай дыяспары і іспанскай інтэлігенцыі, якіх цікавіць культура Беларусі.

✔ Фестываль інструментальнай і вакальнай музыкі «Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва» 16-ы раз стартаваў у Брэсце і будзе доўжыцца па 26 сакавіка. Тыдзень адкрыла канцэртная праграма «Цымбалы — душа Беларусі», якую прадставіў ансамбль цымбалістаў «Лілея» Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Яўгена Гладкова. Мерапрыемствы фэсту ладзяцца ў канцэртных залах Брэсцкага дзяржаўнага музычнага каледжа імя Р. Шырмы.

# ЖЫЦЬ ТЭАТРАМ

На фестываль прыехалі пастаянныя прыхільнікі, тэатральныя эксперты. Таццяна Арлова, напрыклад, — госця «М.@art.кантакта» з першага дня яго існавання і лічыць форум адным з галоўных у тэатральнай скарбонцы краіны:

— Вельмі многія падзеі тэатральнага жыцця ў Беларусі пачыналіся менавіта тут — падчас майстар-класаў і праглядаў, у спробах маладых, а потым развіваліся і прыходзілі ў Мінск, іншыя гарады. Тэатр ва ўсім свеце вельмі розны, няма такога, як за савецкім часам, калі ўсе ў адным кірунку рухаліся. Мы сёння жадаем ведаць усе сусветныя тэндэнцыі і параўноўваць. Магілёў шмат чаго робіць дзеля гэтага: па магчымасці запрашае да сябе ўсё самае цікавае, самае лепшае.

**Нэлі ЗІГУЛЯ,**
**фота аўтара**

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.



*Падчас адкрыцця моладзевага форуму «М.@rt.кантакт».*

## *У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# З беларускімі кнігамі — у Нальчык

«Саюз пісьменнікаў Беларусі падзяляе пазіцыю дзяржавы адносна ўмацавання ў грамадстве сацыяльнай справядлівасці і прыцягнення як мага большай колькасці актыўнага насельніцтва да працы», — так старшыня творчай арганізацыі Мікалай Чаргінец выказаўся пра Дэкрэт № 3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» падчас пленуму прэзідыума СПБ у Доме літаратара. Кіраўніцтвам творчай арганізацыі складзены адпаведны зварот да беларускага грамадства.

На пленуме абмяркоўвалі і комплекс мерапрыемстваў, прымеркаваных да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Прыкладам, нядаўна стартаваў рэспубліканскі конкурс юных чытальнікаў «Жывая класіка». Першы намеснік старшыні СПБ Алена Стэльмах распавяла, што заключны этап конкурсу адбудзецца ў Полацку падчас святкавання Дня беларускага пісьменства. СПБ абвесціў конкурс «Скарынавай душой узлашчанае слова», у якім можа ўзяць удзел кожны ахвотны.

У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубронак» адкрылася змена «Кнігалюбы ў "Зубронку", ці Чытаем па-беларуску». Дзеля падтрымкі юных кнігалюбаў цэнтру будуць перададзены кнігі беларускіх аўтараў. Школьнікі пазнаёмяцца і з пісьменнікамі.

А ў Нацыянальным кабардзіна-балкарскім універсітэце ў Нальчыку пачалі вывучаць дысцыпліну «Беларуская мова». Для гэтай навучальнай установы падрыхтавана бібліятэчка кніг айчынных пісьменнікаў пра Беларусь і Мінск, пра ўнёсак Францыска Скарыны ў гісторыю беларускага кнігадрукавання. Дарэчы, у Кабардзіна-Балкарыі жыве больш як тысяча нашых землякоў. Кнігі патрапяць у Нальчык на пачатку красавіка.

Падчас пленуму зацверджаны склады і старшыні секцый СПБ. Секцыю паэзіі ўзначаліў Казімір Камейша, прозы — Наталія Касцючэнка, крытыкі і літаратуразнаўства — Алесь Марціновіч, публіцыстыкі — Васіль Шырко, дзіцячай літаратуры — Уладзімір Мазго, перакладу — Іван Чарота, драматургіі — Анатоль Дзялендзік, прыгодніцкай літаратуры і фантастыкі — Уладзімір Кулічэнка, сатыры і гумару — Мікола Шабовіч, краязнаўства — Алесь Карлюкевіч, песеннага жанру — Канстанцін Цыбульскі.

Склад творчай арганізацыі папоўнілі паэты Максім Кішчанка, Наталля Цвірко, Ірына Радзіхоўская і Ганна Ціханава, дзіцячыя пісьменнікі Валерый Квілорыя і Таццяна Дамаронак (Кудраўцава) ды празаікі Валерый Касаткін і Анатоль Бярнацкі.

**Яна ЯВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**25 сакавіка** — *на фестываль сямейнага чытання ў Цэнтральную дзіцячую бібліятэку. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**26 сакавіка** — *на Дзень армянскай культуры з удзелам пісьменнікаў МГА СПБ у Цэнтр нацыянальных культур. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам пісьменніцы Алены Прахінай у СШ № 13. Пачатак у 10.30.*

**27 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Міхаілам Галдзянковым, Інай Фраловай і Ганнай Чумаковай у спецыяльную гарадскую бібліятэку для сляпых. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**28 сакавіка** — *у кнігарню «Вянок» на творчую сустрэчу з пісьменнікамі МГА СПБ. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**28 сакавіка** — *на творчы вечар пісьменніка Дзмітрыя Дземідовіча «І людзі ў люстэрку часоў» у публічную бібліятэку № 7 імя Я. Коласа. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**29 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Мазго ў публічную бібліятэку № 16. Пачатак у 11.30.*

**29 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Тамарай Бунта ў Мінскі раённы цэнтр культуры. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *у кнігарню «Кнігачэй» на творчую сустрэчу з пісьменнікамі сталічнага аддзялення СПБ. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**31 сакавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**28 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Аляксандрам Валковічам у Жабінкоўскую раённую бібліятэку. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**29 сакавіка** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Адкрыццё» (кіраўнік — пісьменніца Зінаіда Дудзюк) у Брэсцкую гарадскую бібліятэку імя Пушкіна. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**29 сакавіка** — *на прэзентацыю зборніка дзіцячых вершаў паэтэсы Ірыны Карнаухавай «Ах, какой сегодня день!» у дзіцячую бібліятэку № 12 г. Мінска. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на пасяджэнне вочна-завочнай школы «Са-Творчасць» пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечанае 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і гадавіне стварэння школы (г. Мінск, плошча Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Падарожжа ў краіну казак» у дзіцячую бібліятэку № 12 г. Мінска. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**31 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Кацярынай Хадасевіч-Лісавой «Казкі жывуць побач» у публічную бібліятэку № 16 г. Мінска. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**31 сакавіка** — *на паэтычную пятніцу «Песняры зямлі Беларускай» (у межах святкавання 135-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа) у Валожынскую дзіцячую бібліятэку. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**28 сакавіка** — *на творчую сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі «Цікава пра ўсё на свеце ведаць» у Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**30 сакавіка** — *на прэзентацыю «Жизнь моя, как бессмертны уроки твои…» кнігі прозы Тамары Красновай-Гусачэнка «Жизнь — моя молитва» ў Віцебскую гарадскую бібліятэку імя Я. Маўра. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**28 сакавіка** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Славадром», прысвечанае Сусветнаму дню паэзіі, у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага. Тэма дыскусіі: «Паэзія — гэта…». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**27 сакавіка** — *на адкрыццё Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі з удзелам пісьменніка Міколы Леўчанкі ў Быхаўскую раённую дзіцячую бібліятэку. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**29 сакавіка** — *на сустрэчу вучняў СШ № 4 г. Горкі з пісьменнікам Анатолем Прохаравым «У краіне дзяцінства» ў Горацкі раённы гісторыка-этнаграфічны музей. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

# Сакрэт пана Крашэўскага

**Нядаўна Музей-сядзіба «Пружанскі палацык» прымаў шмат гасцей — знаўцаў творчасці знакавай асобы беларускай і еўрапейскай навукі і культуры XIX ст. Юзафа Ігнацы Крашэўскага, радавыя карані якога звязаны з Пружаншчынай.**

Галоўныя падзеі імпрэзы — прэзентацыя беларускамоўнага перакладу гістарычнай аповесці Юзафа Крашэўскага «Кароль у Нясвіжы. 1784», які зрабіў філолаг і літаратуразнаўца Міхась Кенька, і знаёмства з новым творам народнага мастака Беларусі Івана Міско — барэльефам з выявай славутага дзеяча.

Нягледзячы на пастаянныя захады па ўвртанні імя Крашэўскага на радзіму, якія робяць «палацык» і даследчыкі, яно пакуль застаецца не вельмі вядомым. Тым не менш той, хто хоць раз дакрануўся да творчасці Крашэўскага, назаўжды застаецца пад уражаннем вялікай справы, якую ён зрабіў. Таленавіты і пладавіты літаратар, выдатны даследчык гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, палітычны дзеяч, выдавец, крытык, публіцыст, музыкант, мастак, пісьмовая спадчына якога налічвае каля 600 тамоў. Крашэўскі стаяў у адным шэрагу з такімі дзеячамі айчыннай гісторыі, як браты Тышкевічы, Адам Кіркор, Ян Чачот, якіх называюць пачынальнікамі беларусазнаўства.

Крашэўскага адкрываюць для сябе многія. Менавіта так можна вызначыць знаёмства з гэтай асобай мастака Івана Міско. У 2015 г. скульптар выканаў барэльеф з партрэтам Юзафа Крашэўскага, які стаў значным набыткам «Пружанскага палацыка» і заняў адно з цэнтральных месцаў на новай выстаўцы "З Доўгага — у свет", якая адкрылася ў музеі. У экспазіцыі прадстаўлена адзіная ў нашай краіне калекцыя, прысвечаная памяці слыннага земляка, якая складае больш як 380 адзінак. Сярод іх — новыя набыткі музея: барэльеф, які стварыў І. Міско, пераклады М. Кенькі, прыжыццёвыя выданні Ю. І. Крашэўскага — кнігі «Сакрэт пана Чурылы» і «Стах з Конар», два арыгінальныя медалі ў гонар 50-годдзя літаратурнай творчасці Крашэўскага 1879 г. Большасць прадметаў калекцыі можна ўбачыць на выстаўцы, якая будзе працаваць у Музеі-сядзібе «Пружанскі палацык» да кастрычніка.



*Міхась Кенька прэзентуе пераклад аповесці Юзафа Крашэўскага «Кароль у Нясвіжы».*

Сустрэча аб'яднала розных людзей, якія цікавяцца гісторыяй роднага краю і вераць, што калі-небудзь на Пружаншчыне з'явіцца музей, прысвечаны вялікаму працаўніку-гуманісту Юзафу Крашэўскаму.

**Наталія ПРАКАПОВІЧ**

# ПАЛЁТ У ВЕЧНАСЦЬ

**Зусім нядаўна Беларусь і свет шырока адзначылі 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Паэтычная спадчына класіка прыцягвае ўвагу даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, натхняе сучаснікаў. Сведчаннем таму стала выстаўка вядомага беларускага графіка, дацэнта, загадчыка кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Юрыя Хілько «Страцім-лебедзь… Палёт у вечнасць», якая нядаўна адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.**


*Юрый Хілько.*

У адкрыцці бралі ўдзел загадчык музея Марына Запартыка, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, прарэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Алена Бохан, сустаршыня Беларускага саюза мастакоў Глеб Отчык, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, калегі, сябры, прыхільнікі таленту мастака.

У аснове навуковай канцэпцыі выстаўкі, распрацаванай супрацоўнікамі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, — паэма «Страцім-лебедзь» і верш «Пагоня», вяршыня беларускай патрыятычнай лірыкі пачатку XX стагоддзя. Менавіта гэтыя творы паэт напісаў у Мінску, у свой апошні прыезд на Беларусь, перад тым, як назаўсёды з ёй развітацца.

Юрый Хілько даўно цікавіўся паэзіяй М. Багдановіча, неаднаразова звяртаўся да яе ў сваіх графічных работах, стварыў выдатныя ілюстрацыі да выдадзенай у 1994 годзе кнігі вершаў М. Багдановіча «Вянок». Праца мастака была адзначана дыпломам конкурсу «Лепшае выданне года» (за афармленне кнігі). У 2011 годзе Беларускі фонд культуры пры непасрэдным удзеле супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча выдаў трохкніжжа паэта — «Слуцкія ткачыхі», «Зорка Венера», «Пагоня» на дзесяці мовах свету. Аўтарам ілюстрацый таксама стаў Юрый Хілько, чые мастацкія работы сёння з'яўляюцца каштоўнымі музейнымі экспанатамі.

Арыгінальныя графічныя работы паводле верша М. Багдановіча «Пагоня» ўпершыню прэзентуюцца шырокай публіцы. Перад наведвальнікамі яны паўстаюць не ў якасці ілюстрацый да вершаў, а як паўнавартасныя творы мастацтва. Другая частка выстаўкі — мастацкія работы паводле паэмы «Страцім-лебедзь», над якімі Юрый Іванавіч працаваў на працягу апошніх гадоў. Два беларускія творцы, падзеленыя стагоддзем, аб'яднаныя не толькі глыбокім філасофскім падмуркам, імкненнем да вяршынь мастацтва, арганічным сумяшчэннем класічных традыцый і наватарскіх падыходаў. Максім Багдановіч пісаў: «светлы ж след будзе вечна жывым». Юрый Хілько ўзнімае тэму «пасляследу», адзначае, што «ў гісторыі і веры ён шукае свае сляды».

**Ірына ДАВЫДОК, фота аўтара**

## Дайджэст

• Славуты харэограф Валянцін Елізар'еў вяртаецца ў Оперны тэатр. Напрыканцы кастрычніка, да свайго 70-годдзя, майстар ажыццявіць новую рэдакцыю балета «Спартак», а ў пачатку лістапада выступіць рэжысёрам канцэрта «Зоркі сусветнага і беларускага балета». Як распавёў Валянцін Елізар'еў, канцэпцыя спектакля застанецца ранейшай, бо «пастаноўка адбылася». Пры гэтым харэограф плануе ўвесці ў балет новых выканаўцаў, а таксама некаторыя змены ў харэаграфіі. На пытанне, ці плануе тэатр запрашаць харэографа для іншых пастановак, Елізар'еў адказаў, што такое пытанне не ўздымалася. Акрамя пастаноўкі «Спартака» і канцэрта зорак сусветнага балета да юбілею Елізар'ева запланаваныя іншыя мерапрыемствы: 30 сакавіка ў Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрыецца выстаўка «Валянцін Елізар'еў. Рэпартаж з гэтага часу», таксама плануецца выданне кнігі, прысвечанай творчасці харэографа, а на беларускім і расійскім тэлебачанні выйдуць новыя фільмы, якія распавядуць пра яго творчасць.

• Сёлетнія лаўрэаты прэміі «Дэбют» былі абвешчаныя ў Дзень паэзіі, 21 сакавіка. Галоўную прэмію ў паэтычнай намінацыі атрымаў Міхал Бараноўскі са зборнікам «*VOLUMEN 1*». У прозе — Андрусь Горват з кнігай «Радзіва "Прудок". Дзённік». Лепшым дэбютам у мастацкім перакладзе вызначаная Анэля Дубавец з перакладам з польскай мовы кнігі Вітальда Шаблоўскага «Танец мядзведзяў». Астатнія фіналісты — Аляксей Арцёмаў, Ганна Комар, Андрэй Дзічэнка, Уладзімір Садоўскі, Надзея Кім і Сюзанна Паўкштэла — атрымалі заахвочвальныя прызы. Літаратурная прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча заснаваная ў 2010 годзе. Уручаецца за дэбютную кнігу аўтарам да 35 гадоў і за творы ў жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч: паэзія, проза, мастацкі пераклад.

• Невядомае апавяданне Фрэнсіса Скота Фіцджэральда апублікаванае на старонках амерыканскага часопіса *The New Yorker*. Кожны ахвотны можа пазнаёміцца з творам на сайце выдання. Апавяданне называецца «*I.O.U.*» і датуецца 1920 годам. Уласна расповед вядзецца ад асобы выдаўца, гатовага публікаваць любыя кнігі, якія могуць прынесці яму вялікі прыбытак. Фрэнсіс Скот Фіцджэральд з'яўляецца адным з самых яскравых прадстаўнікоў амерыканскай літаратуры «страчанага пакалення». Найбольш папулярнымі яго творамі лічацца «Вялікі Гэтсбі», «Пяшчотная ноч» і «Апошні магнат».

• Гісторык Анатоль Сідарэвіч выказаў меркаванне, што верш-праклён Уладзіміра Дубоўкі «Жывеш і сохнеш — мільянер!..» быў адрасаваны Петрусю Броўку. Аргументацыя гісторыка адштурхоўваецца ўласна ад тэксту. Так, Дубоўка кажа пра вершы, што выключае Крапіву з верагодных адрасатаў. Радок «Адхватных прэміяў і лаўраў» выкрэслівае са спіса Максіма Лужаніна, у той час як Броўка меў Сталінскую, Ленінскую, Купалаўскую і шэраг Дзяржпрэмій БССР. «Адразу ладзіш гром літаўраў» — сцверджанне вядомага славалюбства Броўкі, па меркаванні Сідарэвіча: «Алесь Адамовіч, які не ацаніў ягоны раман "Калі зліваюцца рэкі", мусіў абараняць доктарскую ў Кіеве, а ў кнігу пра беларускі раман мусіў уставіць радкі пра тыя "рэкі", бо кніга не выйшла б. Не выйшла б і кніга Рыгора Бярозкіна "Спадарожніца часу", калі б Рыгор Саламонавіч не ўставіў у яе артыкул пра Броўку».

## ЛіМ-каляндар

**20 сакавіка** — 90 гадоў з дня нараджэння Хведара Жычкі (1927 — 2007), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**21 сакавіка** — 90 гадоў з дня нараджэння Галіны Васюковай (1927 — 2004), беларускага празаіка.

**21 сакавіка** 70-годдзе адсвяткаваў Мікалай Ісаёнак, беларускі жывапісец.

**21 сакавіка** 80 гадоў адзначыў Фёдар Севасцьянаў, беларускі спявак, заслужаны артыст БССР.

**22 сакавіка** — 135 гадоў з дня нараджэння Эдзюка Будзькі (1882 — 1958), беларускага паэта, публіцыста, выдаўца.

**23 сакавіка** 75 гадоў споўнілася Эдуарду Астаф'еву, беларускаму скульптару.

**25 сакавіка** — 95 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Яўневіча (1922 — 2010), беларускага мовазнаўца, заслужанага настаўніка БССР.

**26 сакавіка** 75-гадовы юбілей святкуе Іван Арабейка, беларускі паэт.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ смуткуюць з прычыны смерці члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Леаніда Васільевіча ЛУКШЫ і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

*Палачане*

# Летапісец



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

**Першы раз я ўбачыў гэтага вядомага ў горадзе чалавека, калі ён завітаў у рэдакцыю полацкай газеты, дзе я пасля карэктарскай працы ўзначаліў аддзел культуры. Чуў пра яго шмат, ды і нярэдка бачыў яго матэрыялы па гісторыі роднага Полацка.**

Мікалай Аляксандравіч Маніс быў дырэктарам адной з полацкіх школ, насіў высокае званне заслужанага настаўніка БССР. Нешта старасвецка-інтэлігентнае было ва ўсёй яго паставе: высокі, сівы, у акуратным гарнітуры, ён меў прыемны бас і гаварыў на бездакорнай беларускай мове. Я, малады чалавек, нават крыху саромеўся, але Мікалай Аляксандравіч вельмі добразычліва, з павагай азваўся пра мае сціплыя газетныя публікацыі і працягнуў стос папер, напісаных ад рукі прыгожым каліграфічным почыркам. Гэта быў матэрыял пра партызанскі рух на Полаччыне ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Мікалай Аляксандравіч сам быў удзельнікам тых падзей. У партызанскім атрадзе ён нават выдаваў насценгазету, дзе сам маляваў карыкатуры на захопнікаў, яго матэрыялы друкавалі франтавыя газеты, якія выпускаліся ў тыле ворага, — «Бальшавіцкі сцяг» і «Віцебскі рабочы». Але не толькі журналісцкай дзейнасцю займаўся Маніс, ён удзельнічаў у баявых аперацыях, добрае веданне нямецкай мовы дапамагала здабываць каштоўныя звесткі для разведкі народных мсціўцаў.

Малады чалавек ужо меў за плячамі Полацкае педвучылішча, вучобу ў БДУ і досвед педагагічнай работы ў школе. Таму пасля заканчэння вайны і вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў роднага горада Мікалай Маніс вярнуўся да педагагічнай работы. Працяглы час ён узначальваў настаўніцкі калектыў 13-й школы горада.

Сёння кожны, хто праходзіць па набярэжнай Дзвіны ў старажытным горадзе, можа ўбачыць помнік воінам-гвардзейцам, якія першыя ў далёкім 1944 годзе замацавалі плацдарм для наступлення савецкіх войскаў, якія вызвалялі горад.

І далёка не ўсе ведаюць, што матэрыял пра дваццаць трох гвардзейцаў пад камандаваннем лейтэнанта Грыгор'ева адшукаў у старых падшыўках газеты «Правда» менавіта Мікалай Аляксандравіч Маніс. Гэта потым, магчыма, зноў жа, дзякуючы руплівасці Маніса, з'явілася славутая песня Юрыя Візбара пра гвардзейцаў лейтэнанта Грыгор'ева «Этот город называется Полоцк».

Маніс браў актыўны ўдзел у стварэнні кніг «Полацк. Гістарычны нарыс» і «Памяць. Полацк і Полацкі раён». Ім былі падрыхтаваны цэлыя раздзелы пра мінулае роднага горада.

Сёння, як сведчыць дырэктар Полацкага краязнаўчага музея Ірына Воднева, у фондах гэтай установы налічваецца больш за 450 прадметаў, перададзеных у розныя гады самім Мікалаем Аляксандравічам і яго роднымі, матэрыялы з яго спадчыны захоўваюцца таксама ў іншых музеях, якія ўваходзяць у склад Полацкага Нацыянальнага музея-запаведніка. Мне не раз потым давялося сустракацца з Мікалаем Аляксандравічам, бываць у яго дома. Заўсёды ўражвала не толькі прыроджаная інтэлігентнасць гэтага чалавека, але нейкая асаблівая захопленасць усім тым, што звязана з гісторыяй роднага краю. Гэта, дарэчы, рыса, уласцівая ўсім полацкім людзям. Ён, нашмат старэйшы (а памёр Маніс у 1996 годзе), жыва цікавіўся маладымі літаратарамі з Полацка, навінамі пра мастацкія выстаўкі, пра знаходкі археолагаў.

На жаль, сёння, прыехаўшы ў горад, я ўжо не ўбачу знаёмую высокую постаць, не пачую яго характэрны голас. Але ён застаўся не толькі ў маёй і памяці блізкіх яму людзей — ён застаўся ў паўтарытысячагадовай гісторыі нашага Полацка, якая ўвабрала ў сябе лёсы і здзяйсненні многіх сваіх слаўных сыноў.

# БОЛЬШ, ЧЫМ ДЗЕНЬ

**Гэты дзень яшчэ не стаў усебеларускім святам, але мог бы стаць… У Беларусі гэта свята не для ўсіх, думае большасць, і памыляецца — гэта як паглядзець. На гэтым тыдні — 21 сакавіка — у свеце адзначалі Міжнародны дзень паэзіі. Што ж Беларусь? Бо тут у нас, калі хто не рыфмуе ці не спрабаваў калі-небудзь рыфмаваць сам, то з задавальненнем паразважае пра тое, што такое харошыя вершы. Нездарма Беларусь называюць краінай паэтаў: тут сярод паэтаў Постаці, Асобы, Імёны. Ад паэтыкі Скарыны да адухоўленых словаў Сімяона Полацкага. Ад жадання Багушэвіча спяваць для ўсіх да вершаў Багдановіча, якія праспяваць можа кожны беларус. Ад паэтаў-класікаў, як Купала, да паэзіі будучыні, якую стварае моладзь. Тут паэты лічацца Прарокамі, а іх вершы даюцца дзеля таго, каб бачыць будучыню і ствараць яе: за словамі павінны ісці справы.**
**Гэта краіна паэтаў яшчэ і таму, што аднаўлялася-стваралася з мараў творцаў-летуценнікаў, высілкі якіх камусьці маглі падавацца марнымі. А яны рабілі сваю справу: складалі не толькі вершы і паэмы, а праз іх — гуртавалі культурную супольнасць. Імкнуліся разгадаць таямніцы краіны Паэзія: «Я ведаў, што ты — бліскавіца, / Што хмары рассекла, / Я ведаў, што ты —вызваленне / З няволі і пекла» (М. Танк). Фармулявалі задачы для паэтаў: «з цэлым народам гутарку весці» (Я. Купала). І разумелі, што яна — наймагутнейшая ўладарка дум, і гэта назаўсёды. «Паэзія — хвароба ўсіх вякоў. / Паэзія — служанка й каралева» (Р. Баралілін). Служанка — для ўсіх: столькі створана, што кожны можа знайсці словы, напісаныя менавіта для яго. Для яе няма падзелу на выбраных і нявыбраных, сваіх ці чужых. У гэтым каралеўстве святам можа стаць кожны дзень, калі ў ім здараецца цуд стварэння, — праз боль ці натхненне, энергія якога потым пульсуе яшчэ доўга. Бываюць такія створаныя цуды, што за імі — жыццёвая праўда і наканаванасць, лёсы народаў і краін, сутнасць цэлай эпохі ці наогул адкрыты партал у вечнасць. І гэта ўсё ўпісана ў адзін дзень…**



**Іван ЮРКІН:**

— Я не толькі пішу вершы, але і пастаянна цікаўлюся новымі творамі паэтаў-сучаснікаў: Міхася Пазнякова, Кастуся Цыбульскага. Паэзія — гэта маё жыццё. Таму для мяне Сусветны дзень паэзіі — сапраўды надзея. А многія імпрэзы, у якіх я ўдзельнічаю, звязаныя з выхадам дыска песень на мае вершы «Где калина цвела…» ў выкананні спевака Анатоля Ярмоленкі (музыка Алега Елісеенкава). Адна з маіх аўтарскіх вечарын хутка плануецца ў Магілёве.

**Анастасія КУЗЬМІЧОВА:**

— Для мяне Сусветны дзень паэзіі — выдатная нагода павіншаваць са святам усіх сяброў-паэтаў. Да лірычнага слова я прыкіпела душою з самага дзяцінства. А развіцца маім здольнасцям дапамагло літаб'яднанне «Светотень», якое ў 90-я гады існавала пры газеце «Знамя юности». Шмат удзельнічала ў розных паэтычных конкурсах, прычым не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі — ва Украіне, Расіі. У Пярмі нават выходзіла ў радыёэфір! А тут, у Мінску, разам з калегамі-паэтамі — Інай Фраловай, Адамам Шостакам, Ганнай Чумаковай, Аленай Свечнікавай ды іншымі — шмат выступаю на розных пляцоўках: у бібліятэках, музеях. Лічу, што сапраўдная асалода для паэта — жывы водгук публікі на яго творчасць.

**Алесь ПЛОТКА:**

— У ідэі Дня паэзіі ёсць пэўная пастка. Па-першае, паэзія — рэч глыбакадумная, і кожны верш — як свята Перамогі: са слязьмі на вачох; па-другое, літаратурная супольнасць ва ўсе часы неаднародная, і такі дзень увасабляе высакародную, але ўтапічную місію захаплення архіпелагам творчых душ, якія па-сапраўднаму разам ніколі-ніколі не будуць. Такая ўжо рэч паэзія. Я адказны за сябе: імкнуся зрабіць нешта добрае для супольнасці: віншую блізкіх па духу паэтаў, сёлета напісаў усім калегам па цэху, з кім меў палемічныя сутыкненні (нават грубіянам), арганізаваў у межах *StereoForum* паказ відэавершаў з Украіны, дзе ёсць цікавая школа гэтай сучаснай з'явы. Хай кожны нешта зробіць — вось і будзе свята. Дзень паэзіі — свята даволі маладое і ў нашай краіне малавядомае. Некаторыя ладзяць літімпрэзы, нехта адзначаецца ў сацыяльных сетках, але нацыянальнага маштабу мы пакуль не дасягнулі. Нейкай традыцыі пакуль няма, да таго ж яно раней адзначалася ўвосень — адсюль блытаніна. Але і добрая нагода святкаваць Дзень паэзіі і «па-новым», і «па-старым» стылях. А лепей — рабіць хаця б Месяц паэзіі, як, прыкладам, у Канадзе і ЗША, каб можна было разгарнуцца!

**Юлія АЛЕЙЧАНКА:**

— Да гэтага года я практычна не святкавала Сусветны дзень паэзіі. Але сёлета гэтае свята было адзначана і тэлебачаннем, і Беларускім радыё, і друкаванымі перыядычнымі выданнямі. Ды яшчэ і сябры мяне асабіста павіншавалі! А адна сяброўка патэлефанавала і папрасіла прачытаць што-небудзь з новага. Безумоўна, такая ўвага была вельмі прыемнай.

Падумалася: калі ва ўсім свеце адзначаюць Міжнародны дзень шчасця, то чаму б не адзначаць гэтак жа шырока Сусветны дзень паэзіі? Гэта ж і ёсць сапраўднае шчасце для паэта!

**Сабіна БРЫЛО:**

— Мне ўвогуле, шчыра кажучы, так дзіўна, што нехта жыве і думае: я паэт. Гэта прыкладна як думаць: я інтэлектуал. То бок, я разумею, што гэта нармальна. Але сама б я гэтак не змагла.

**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ:**

— Для мяне Дзень паэзіі — гэта дзень народзінаў жонкі. Гэта шчасце, калі ў тваім доме жыве муза і паэзія. Адзначылі свята добра.

**Аляксей АРЦЁМАЎ:**

— Я нават рытуал маю! Кілішак унутр, гурком салёным закусіць, і перачытваю нешта класічнае паэтычнае, пад настрой. Сёлета, штопраўда, давялося без гарэлкі адзначаць, але сімвалічны гурок з'еў, перачытваў вершы з «*Urbi et Orbi*» Брусава.

# «Буськовая дарога»

## Бусел як чыннік арнітакода ў беларускай духоўнай культуры

**Архаічныя ў сваёй аснове сімвалы і коды, рэтранслюючы ператвораны ў каштоўнасныя ідэалы сацыяльна-культурны досвед, прад'яўляюць кожнаму пакаленню імператывы дзейнасці, спосабы асэнсавання, узнаўлення рэчаіснасці, крытэрыі яе ацэнкі. І такім чынам уздзейнічаюць на сучаснае і будучае гэтай рэчаіснасці. Адсюль — абвастрэнне навуковай і грамадскай цікавасці да механізмаў і сродкаў (разгалінаванай сістэмы кодаў) мадэліравання і рэтрансляцыі жыццёва важных, правераных часам сэнсаў і самабытных формаў беларускай традыцыйнай духоўнай культуры.**

Бусел — адзін з самых частотных вобразаў арніталагічнага кода беларускай традыцыйнай духоўнай культуры. У народнай трактоўцы бусел (бацян, буця́н, ба́ська) — «святая», «божая», «добрая», «найлепшая», а таму вельмі шанаваная птушка. Паходжанне і іншыя асаблівасці бусла звязваюцца з чалавекам: бусел узнік ад мужчыны, бусліха — ад жанчыны, ці буслы з'явіліся ад чалавека пэўнага полу (часцей мужчыны). Паводле беларускіх легендаў, тыпалагічна блізкіх да класічнага міфа пра гаршчок Пандоры, у якім былі схаваны абстрактныя паняцці: няшчасці, хваробы, людскія звады і інш. (Т. Валодзіна, Л. Салавей // Міфалогія беларусаў: энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 2011. С. 56—57), Бог даў чалавеку мех або два мяхі (ці гаршчок) з гадамі, забараніў туды зазіраць і загадаў ісці на край свету, не азіраючыся, і выкінуць усё ў мора (ці раку, возера, балота, яму, прорву, пекла, агонь). Але цікаўны чалавек (апостал) парушыў забарону (ці яму цяжка было несці мех, гады яго кусалі), у выніку чаго гады распаўсюдзіліся па зямлі. Бог пакараў непаслухмянага (цікаўнага, нявытрыманага, баязлівага) чалавека тым, што ператварыў яго ў бусла, які павінен ачышчаць зямлю ад змей, вужоў, жаб, насякомых.

Матывы паходжання бусла звычайна ўлучаныя ў тэксты «народнай Бібліі». Вядомыя на сённяшні дзень легенды тлумачаць паходжанне бусла з апостала Іаана (у Слуцкім і Мазырскім павец тах — Антона); знахара; першых людзей Адама і Евы; мужчыны і жанчыны (мужа і жонкі), якія збіралі па загадзе Бога жывёлу ў каўчэг Ноя; мужчыны ці жанчыны (бабы); добрага даверлівага чалавека (яго спакушальнік стаў катом); шляхціца; мужыка; праклятага маткай сына; душы чалавека.

У легенды пра паходжанне бусла можа пранікаць матыў процістаяння Бога і чорта, падмовы чалавека чортам — ударом усялякай поскудзі. Паводле сучасных фіксацый, «спакушальнікам» можа лічыцца як д'ябал, так і чалавек. Метамарфоза чалавека ў птушку выступае формай кары чалавека за асабісты грэх у многіх сюжэтах. Так, у Ваўкавыскім павеце бусел — гэта, паводле паходжання, чалавек, які лякаў Бога з-пад моста, у Полацкім павеце — гаспадар, які карміў работнікаў жабамі. У Гродзенскай губерні буслы — душы людзей, якія пакутуюць за свае грахі (Гура А. «Символика животных в славянской народной традиции». Москва, 1997. С. 648—649). Цікава, што Бог можа пакідаць шанец чалавеку, ператворанаму ў бусла, вярнуць свой чалавечы выгляд пры ўмове, што вінаваты ліквідуе наступствы свайго граху — збярэ ўсіх гадаў.

Натуральна, што бусел, які паходзіць ад чалавека, мае ўласнае імя: «Зовуть — бусько, дэколы — бусёк. А часом по йменню зовуть — то Йван, Иван» (Климчук Ф. Духовная культура полесского села Симоновичи // «Славянский и балканский фольклор. Этнолингвистическое изучение Полесья». Москва, 1995. С. 370). У лакальных версіях імя чалавека, які быў ператвораны ў бусла, вар'іруецца. Звычайна за птушкай надалей замацоўваецца гэтае імя: Іван, Васіль, Рыгор, Яша, Сцяпан, Адам, Кузьма, Якім, Якуб(а), Мікіта, Сімон, Герасім, Антон.

Спецыфіка паводзінаў і знешняга выгляду буслоў часта выводзіцца з роднасці з чалавекам, «адчалавечага» паходжання. Так, лічаць, што буслы маюць душу, клякочуць, як галосяць і ўзносяць да неба малітвы пра пакаянне грэшнік, належаць да хрысціянскай веры (Гура А. С. 650), жывуць каля людзей.

Буслы збіраюцца разам і спраўляюць вяселлі. Кожная сямейная пара манагамная, неразлучная, прывязаная да дзяцей; у выпадку смерці аднаго з пары другі па сваёй волі ідзе на смерць услед за ім. Калі буслы адлятаюць у вырай, то пакідаюць слабых птушак і тых, якія засталіся без пары. А калі яны вяртаюцца і бачаць, што такая птушка перазімавала, забіваюць (Тамсама, с. 650).

Утварэнне буслінай пары апісваецца ў тэрмінах «жаніцьбы навекі»: *«Есьлі бацяніха прападзе, бацян далей ужо не ажэніцца. Ён ужо не нойдзе сабе. У нас за лета забіла провад бацяна. Мусі, бацяніцу забіла, жонку гэту. А ён гады тры ляціць на гэнае мейсца і сядзіць. Усе бацяны маюць гняздо, а ён прыляціць да нашай цёткі там і сядзіць, і сядзіць, і сядзіць. І тады ходзя па сенажаці. Адзін, як аблудны. І бацяніца не найдзе пары»* («Традыцыйная культура беларусаў». У 6 т. Т. 3: Гродзенскае Панямонне. У 2 кн., кн 2. Мінск, 2006. С. 530). Бусел можа пакончыць сабой з рэўнасці, з роспачы з-за разбуранага гнязда, знішчаных яек, пагібелі партнёра... Самку, якую буслы западозрылі ў шлюбнай здрадзе, судзяць публічна і забіваюць, што таксама сведчыць аб псіхічнай персаніфікацыі, звязанай з уяўленнямі пра паходжанне бусла ад чалавека.

Асабліва цікавыя легенды, у якіх ёсць указанне на тое, што бусліная чарада мае важака, і маркіраваны ён адметным колерам — чорным. Падобныя ўяўленні пра іерархію ў буслiным свеце, вылучанасць менавіта чорнага бусла зафіксаваныя ў розных рэгіёнах Беларусі, у прыватнасці ў Брэсцкім Палессі.

З чалавечым паходжаннем бусла можа быць звязана прымеркаванасць яго прылёту да дня Аляксея чалавека Божага (17/30 сакавіка), у прыватнасці ў Цэнтральным Палессі. У гэтых уяўленнях, як і шматлікіх іншых, бусел збліжаецца з жоравам. У Ваўкавыскім павеце адлёт буслоў таксама тлумачыцца іх паходжаннем ад чалавека: калі снег пакрые зямлю, яны не змогуць збіраць свае пазногці, якія яны выкідвалі, калі былі людзьмі (Гура А. С. 657). На Піншчыне з адлётам буслоў звязваюць з'яўленне на небе Млечнага шляху — «буськовой дорогі» (Тамсама, с. 650).

Колеры афарбоўкі бусла адпавядаюць колерам традыцыйнага беларускага адзення. Паводле запісанага А. Сержпутоўскім тэксту, калі мужык, які павінен быў выкінуць гаршчок з гадамі, заснуў, яго жонка адкрыла пасудзіну, *«а адтуль і выскачылі ўселякіе гадзюкі, вужаркі й жабы. Спалохалася баба нарабіла крыку. Прахапіўся чалавек да так босы, у белай сарочцэ, толькі накінуўшы на плечы чорную світу, давай збіраць тую нечысь. Збіраў, збіраў — нічого не зробіць. Але ось прыходзіць Бог і кажэ тым людзям: "Вы выпусцілі гадаў, вы й збірайце іх". І абернуў Бог тых людзей у буськоў. Ходзяць з тае пары па балоце босые, з чырвонымі нагамі, у белых сарочках і чорных світах буські да й збіраюць усякую нечысь. Ены й стараютца жыць бліжэ к сваім братом — людзям, знаючь, што іх, як братоў, людзі не будуць біць. От адкуль узеліса буслы»* (Сержпутоўскі А. «Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў». Мінск, 1999. С. 49—50). Паводле


Фота Кастуся Дробава.

іншых легендаў, чорна-белая афарбоўка бусла звязана з вопраткай шляхціча, у якога адна штаніна белая, а іншая — чорная, ці з торбай у чалавека за плячыма. У матывах паходжання бусла ад бабы згадваецца чорная спадніца і белая сарочка: У Мастоўскім раёне афарбоўка чорнага бусла ўспрымаецца як жалобнае ці манашаскае адзенне. Трактоўка белага і чорнага колераў можа звязвацца з дваістай прыроднай бусла — чалавек, але грэшны перад Богам.

Чырвоная дзюба бусла можа ўспрымацца як знак таго, што яму стала брыдка, калі Бог пакараў яго за непаслухмянства. Паводле іншых легендаў, разлаваны Бог можа пабіць вінаватага палкаю, адсцябаць яго прутам ці галавешчай, ад чаго ў бусла застаюцца чорныя плямы на крылах, чорныя спіна і хвост, а па нагах і носе цячэ кроў, таму дзюба і ногі птушкі чырвоныя. У сюжэтах пра Ноеў каўчэг чырвоны колер ног бусла асацыюецца з крывёй загінуўшых падчас патопу людзей (Традыцыйная культура беларусаў. У 6 т. Т. 6: Гомельскае Палессе і Падняпроўе. У 2 кн., кн. 2. Мінск, 2013. С. 544).

Стаўшы птушкай, бусел селіцца побач з чалавекам, на стрэхах хат, ходзіць за земляробамі па полі, спрыяе людзям. Паўсюдна на Беларусі лічыцца, што жылое гняздо бусла на даху дома з'яўляецца шчаслівай прыкметай. Калі ж буслы не вярнуліся на весну ў сваё гняздо, то на той сядзібе неўзабаве нехта памрэ (Жыццё адвечны лад. Беларускія народныя прыкметы і павер'і: у 3 кн. Кн. 2. Мінск, 1998. С. 234).

Лічыцца, што буслоўка ахоўвае хату ад маланкі і пажару ўвогуле, ад граду, спрыяе прыбытку ў гаспадарцы. Ад перуна раілася хавацца пад дрэва з буслянкай, бо ў такое дрэва ніколі не ўдарыць маланка. Калі буслы прадчуваюць, што ў хату трапіць маланка, абдудзецца пажар, то пакідаюць хату і пераносяць птушанят. Шкодзіць буслам, асабліва забіваць іх, ужываць у ежу — вялікі грэх, карай за які можа быць хвароба, слепата, смерць вінаватага, яго дзяцей, немагчымасць працягу роду.

У апаведах пра бусліную помсту можа актуалізавацца матыў сувязі гэтых птушак з хтанічнымі водамі, гадамі. Так, лічаць, што пакрыўджаны бусел можа занячысціць калодзеж, кінуўшы ў яго гадзюку, ці нанасіць вужоў у хлеў.

Сувязь бусла з нябеснай сферай светабудовы ўскосна выявілася ў заклічках, скіраваных да гэтай птушкі з мэтай даведацца пра надвор'е. Дзятва, убачыўшы ў небе бусла, крычыць яму: «Бусел-калода, што заўтра будзе: дождж ці пагода?» Калі той працягвае палёт, нерухома разгарнуўшы крылы, значыць, будзе пагода, а калі бусел пачынае махаць крыламі, то трэба неўзабаве чакаць дажджу (Зямля стаіць пасярод свету... Беларускія народныя прыкметы і павер'і: у 3 кн. Кн. 1. Мінск, 1996. С. 204).

Пры першай сустрэчы з буслом, як і пры першым каванні зязюлі, рэкамендуецца мець пры сабе грошы. У Кобрынскім раёне грошы ў кішэні ў гэтым выпадку абяцаюць багацце, ключы — вялікі дастатак, а пустая кішэня — страту (Гура А. С. 652]. Пабачыць першага бусла ў палёце прадказвае шчасце, лёгкасць, хуткасць, здароўе, дабрабыт: «Як бачыш, бусел ляціць, то будзеш лёгка бегаць, а як сядзіць, угледзіш, то кепска» [5, с. 588].

З прыведзенымі ўяўленнямі пра важнасць першай у годзе сустрэчы чалавека з буслом, што прыляцеў, звязаны разнастайныя рытуальныя акты, скіраваныя на забеспячэнне ў наступным годзе здароўя, ураджаю, дабрабыту. Калі бачылі першага бусла, маглі прыгаворваць: «На цяхае лета, на буйнае жыта, а нам на здароўе».

Сакральны статус і медыятыўная функцыянальнасць бусла выяўляюцца і ў іншых кантэкстах. Адзначым, што ў шэрагу запісаў бусел згадваецца ў адным кантэксце з Богам, але не лічыцца птушкай святой, «боскай» у сэнсе знаходжання пад апекай і ўладай Бога. Можа сцвярджацца незалежнасць бусла ад Бога і забарона крыўдзіць гэтую «паганую» птушку з-за боязі помсты. Адмыслова трактуецца і прыпісаная буслу «атрутнасць» — з-за яе птушка шануецца як «свяшчэнная»: *«Я Вам скажу, чого вын, [бусел], свяшчэнны. Мы ўсі боімос гадюкі. А вын своїм усім ядом гадюку побэждае — бусэл. І вот вын называвса нэ такі. Вын вэльмы ядовіты. Вын кусаты никого нэ кусае, алэ ежэлы ўкусыть, то нэ будэ нікакого срэдства»* (Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. У 6 т. Т. 4. Брэсцкае Палессе. У 2 кн. Кн. 2. Мінск, 2009. С. 587).

Бусел у беларускай традыцыйнай духоўнай культуры звязаны з цэлым комплексам міфалагічных уяўленняў, экспліцытна ці імпліцытна прадстаўленых у вербальных тэкстах розных жанраў (ад заклічак і клішаваных фальклорных параўнанняў да песень і народна-біблейскіх легендаў), у рытуальнай практыцы (дамінанта вясновай абраднасці — дарча-абменныя адносіны чалавека і бусла), у паўсядзённым сужыцці чалавека з буслямі. На фоне агульнай пазітыўнай трактоўкі бусла, які нібыта паходзіць ад чалавека, суаднесенасці птушкі з боскім пачаткам, нябеснымі стыхіямі, плоднасцю, дзетанараджэннем, дабрабытам, бяспекай, здароўем, вызначаецца і негатыўная семантыка гэтага арніталагічнага вобраза. У шэрагу тэкстаў малых жанраў, сатырычных песень прыпадабненне чалавека і бусла мае на мэце высмейванне першага, а сам бусел можа выяўляцца ў зняважлівым рэчышчы.

**Іна ШВЕД,**
**доктар філалагічных навук**

# Каардынаты беларушчыны

**Паэт Алесь Разанаў у адной са сваіх філасафемаў заўважыў: «Беларускай філасофіі не маем. Маем філосафаў, якія жылі і жывуць у Беларусі, аднак сам лад і склад іхняга мыслення не ўзышоў унутры “глебы”, не апладніўся ёю, а таму не самабытны. “Глеба” дае ўнікальныя магчымасці быць не толькі інтэрпрэтатарам чыіхсьці ўзораў мыслення, а — творцам сваіх… А пакуль па-ранейшаму беларускай філасофіі больш у беларускім мастацтве, у літаратуры, чым у самой філасофіі».**

Гэтую думку сёння падзяляюць шмат якія літаратуразнаўцы, схільныя бачыць літаратуру як практычную форму духоўнага адраджэння. Дый само літаратуразнаўства спрабуе выходзіць на якасна новы ўзровень асэнсавання нацыянальнага прыгожага пісьменства. Сёння яно імкнецца аналізаваць не толькі мастацка-эстэтычныя якасці тэкстаў, але й займаецца даследаваннем «асноватворных пытанняў тут-быцця нацыі, пададзеных у мастацкай літаратуры, нацыянальна-этычных асноў творчасці беларускіх пісьменнікаў, спецыфікі нацыянальнага, канцэпцыі нацыянальнага шляху, сфармуляваных у мастацкіх, публіцыстычных, крытычных тэкстах». Менавіта такім — нацыяцэнтрычным — бачыцца сучасная беларуская навука пра літаратуру даследчыцы А. М. Мельнікавай, пра што яна піша ва ўводзінах сваёй новай кнігі «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя».

Больш за тое, менавіта даследаванні праблемы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, як мяркуе даследчыца, з'яўляюцца сёння прыярытэтным напрамкам літаратуразнаўства. Сваю выснову Мельнікава тлумачыць тым, што сёння, «у часы глабалізацыі, з асаблівай вастрынёй паўстае пытанне захавання нацыянальнага культурнага кода, нацыянальнай ідэнтычнасці», бо «глабалізацыя так званымі малымі народамі ўспрымаецца як сучасная форма палітычнай і культурнай агрэсіі». З гэтым меркаваннем немагчыма не пагадзіцца, бо менавіта цяпер мы можам назіраць даволі яркі момант уздыму цікавасці беларусаў да ўласнага нацыянальнага кода. Гэтая цікавасць аб'ядноўвае абсалютна розныя праявы — нашэнне вышымаек, наведванне моўных курсаў, стварэнне спеўных суполак і вяртанне беларускамоўнага чытача, які яшчэ зусім нядаўна быў на мяжы вымірання.

> *Аповед пра тое, як стваралася нацыянальная міфалогія беларусаў, аўтарка пачынае з «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага. Аднак узнікае заканамернае пытанне: чаму адлік міфастваральнікаў пачынаецца з Ластоўскага, а, прыкладам, не з Адама Кіркора? Зразумела, у кнізе гаворка вядзецца пра тэксты першай трэці XX стагоддзя, аднак яны ўзніклі не на пустым месцы. І было б да месца, хаця б пункцірна, апісаць сітуацыю.*

Разам з тым, трэба адзначыць, што вывучэнне нацыянальнага светапогляду праз даследаванне мастацкай літаратуры пачалося не сёння. Цікавасць да нацыянальнай праблематыкі звязаная ў першую чаргу з тым, што Беларусь у 1990 годзе атрымала дзяржаўную незалежнасць. Ужо ў 1997 годзе выходзіць адна з самых філасофскіх кніг беларускага літаратуразнаўства — «Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» Л. Я. Гараніна. Кніга прысвечаная вывучэнню шляхоў станаўлення і развіцця нацыянальнай ідэі ў беларускай літаратуры і форм яе мастацка-вобразнага выяўлення ў паэзіі, прозе і драматургіі пачатку XX стагоддзя. Сёння можна без перабольшання гаварыць пра тое, што ў Беларусі нацыяцэнтрычныя работы складаюць даволі выразны кірунак навукі пра літаратуру.

Праца А. М. Мельнікавай вылучаецца на фоне папярэднікаў перш за ўсё навізной метадалагічных падыходаў. Імёны прадстаўнікоў постнекаліяльнага падыходу да разумення паняцця нацыі — Б. Андэрсана, Э. Саіда, Х. Бхабха, Ю. Хабермаса — тут не для «галачкі». Гэта рэальна імёны тых, хто паўплываў на разуменне нацыянальнай праблематыкі, гэтак жа, як і Р. Барт, чыё




вызначэнне паняцця «код» Мельнікава прымае як працоўнае. Зноў жа, зварот да праблемы нацыянальнай ідэнтычнасці аўтаматычна выводзіць даследаванне на міждысцыплінарны ўзровень, ці, па словах самой даследчыцы, «на метатэорыю і плюралістычную метадалогію». Аўтарка звяртаецца да прынцыпова новых падыходаў у літаратуразнаўчых даследаваннях — а менавіта да «кампаратыўных культуральных штудыяў, якія выкарыстоўваюць метады розных гуманітарных дысцыплін». Пры гэтым даследчыца не губляе з поля зроку галоўнае пытанне, а менавіта нацыяўсведамленне. Цяжка не пагадзіцца з А. М. Мельнікавай, калі яна сцвярджае, што «сусветныя навуковыя стратэгіі і методыку варта пераасэнсоўваць з улікам уласных патрэб».

У кнізе глыбока прааналізаваныя найбольш важныя набыткі ў галіне асэнсавання нацыянальнай спецыфікі, якія належаць уласна беларускаму літаратуразнаўству (глава «Літаратуразнаўчая рэцэпцыя нацыянальнай спецыфікі беларускага мастацкага слова»). Трэба адзначыць, што А. М. Мельнікава і тут застаецца вернай прынцыпу навуковай навізны і не баіцца называць у якасці аўтарытэтаў імёны аўтараў, многія з якіх практычна не згадваліся папярэднікамі. Тое ж можна сказаць і пра главу «Канцэптуалізацыя нацыянальнага ў крытыцы і публіцыстыцы першай трэці XX стагоддзя», хоць тут імёны больш звыклыя: В. Ластоўскі, А. Луцкевіч, С. Палуян, М. Гарэцкі, Ул. Жылка, А. Уласаў, Ул. Самойла, Я. Лёсік, А. Цвікевіч, Ф. Шантыр.

У главе «Мастацкая мадэль нацыянальнага быцця ў беларускай прозе першай трэці XX стагоддзя» аўтарка звяртаецца да міфапаэтычнага аспекту асэнсавання нацыянальнага. Гэты міф, па сведчанні даследчыцы, трымаецца на пастулаце пра наяўнасць у нацыі своеасаблівага міфалагізаванага ўяўлення пра свет. У сваіх даследаваннях А. М. Мельнікава абапіраецца на тэорыю міфа, распрацаваную Р. Бартам у «Міфалогіях», разглядаючы міф як «семіялагічную сістэму, якая прэтэндуе на тое, каб ператварыцца ў сістэму фактаў».

Аповед пра тое, як стваралася нацыянальная міфалогія беларусаў, аўтарка пачынае з «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага, слушна заўважаючы, што Ластоўскі прыклаў немалыя намаганні, каб стварыць вобраз высокаразвітой крыўскай цывілізацыі. Аднак узнікае заканамернае пытанне: чаму адлік міфастваральнікаў пачынаецца з Ластоўскага, а, прыкладам, не з Адама Кіркора? Зразумела, што ў кнізе гаворка вядзецца пра тэксты першай трэці XX стагоддзя, аднак яны ўзніклі не на пустым месцы, і тут было б да месца, хаця б пункцірна, апісаць сітуацыю. Акрамя вышэйпамянёнай «Кароткай гісторыі Беларусі» аўтарка згадвае «Лабірынты» В. Ластоўскага, апавяданні і аповесці М. Гарэцкага, паэму «Новая зямля» і трылогію «На ростанях» Якуба Коласа, п'есу «Тутэйшыя» Янкі Купалы, апавяданні і раманы Кузьмы Чорнага, «Сцежкі-дарожкі» М. Зарэцкага — усе тыя творы, якія, па вызначэнні даследчыцы, сталі «падмуркам, на якім развівалася беларуская проза наступных перыядаў».

У главе «Нацыянальны светапогляд праз прызму літаратуры» А. М. Мельнікава спрабуе апісаць маральныя каштоўнасці, філасофію жыцця, быццёвасць мыслення беларусаў у тым адлюстраванні, у якім яны падаюцца ў творах пісьменнікаў першай трэці мінулага стагоддзя. Глава пачынаецца са сцвярджэння, што «мастацкі тэкст як прадукт нацыянальнага з'яўляецца каштоўным матэрыялам для даследаванняў асаблівасцей мыслення, псіхікі, ментальнасці пэўнай нацыі, нацыянальнага тэмпераменту». Аўтарка пераканаўча даводзіць слушнасць гэтай тэзы, хоць, канешне, хочацца ўдакладніць, што «прадуктам нацыянальнага», асабіста на наш погляд, мастацкі твор становіцца ці не ў апошнюю чаргу. Бо ў першую чаргу мастацкі твор — гэта вынік маральна-эстэтычнага і, у нечым, наднацыянальнага выбару.

Зразумела, што, даследуючы вобраз зямлі як цэнтра нацыянальных каардынат беларусаў, аўтарка не магла не абысціся без аналізу паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа і рамана «Зямля» Кузьмы Чорнага, якія даследчыцы бачацца як парныя, бо маюць агульны лейтматыў «зямля-карміцелька». Цікавыя й развагі пра ўплыў паганства на станаўленне беларускай ментальнасці.

У главе «Мастацкая гістарыясофія беларускай літаратуры» аўтарка засяроджваецца на «драматызме часу», разважае над гістарычным лёсам беларусаў праз прызму твораў М. Гарэцкага і Кузьмы Чорнага. Тут трэба патлумачыць, што пад гістарыясофіяй у літаратуры даследчыца разумее «комплекс гістарыясофскіх праблем і ідэй, увасобленых у мастацка-вобразнай форме», а пад мастацкай гістарыясофіяй — «не дакументальнае ўзнаўленне гістарычных падзей, а іх эстэтычную і інтэлектуальную інтэрпрэтацыю». Даследчыца тлумачыць патрэбу ва ўвядзенні гэтага тэрміна наступным чынам: «Сутнасць і значэнне мастацкай гістарыясофіі заключаецца ў тым, што мастацтва слова здольнае ахапіць для асэнсавання тыя сферы, якія не даступныя навуковаму аналізу: сувязь гістарычных працэсаў і лёсу асобнага чалавека, залежнасць культурна-этычных нормаў супольнасці ад канкрэтнага часу». Выснова А. М. Мельнікавай пра нацыяхоўную скіраванасць мастацкай гістарыясофіі беларускай літаратуры не толькі слушная, але і добра аргументаваная.

> *Цікавасць беларусаў да ўласнага нацыянальнага кода аб'ядноўвае абсалютна розныя праявы — нашэнне вышымаек, наведванне моўных курсаў, стварэнне спеўных суполак і вяртанне беларускамоўнага чытача, які яшчэ зусім нядаўна быў на мяжы вымірання.*

Глава «Канцэпцыя асобы ў беларускай прозе першай трэці XX стагоддзя» грунтуецца на перакананні, што «паказчыкам сталасці літаратуры з'яўляецца наяўнасць твораў філасофскага зместу, твораў, дзе асэнсоўваюцца так званыя адвечныя пытанні: сутнасці і прызначэння чалавека, характару і мэтаў яго імкненняў». З гэтым цяжка не пагадзіцца. Аднак усё ж не варта забываць, што ў кнізе разглядаюцца творы беларускай літаратуры вельмі канкрэтнага часавага прамежку, а менавіта 1910 — 1940 гадоў. Атрымліваецца, што якраз гэты перыяд і ёсць перыяд сталасці, бо, як сцвярджае даследчыца, менавіта тады ўзмацнілася філасофскае гучанне беларускай літаратуры. Як чалавек, які даследуе іншы часавы адрэзак, скажу, што зварот да праблем чалавека, ці антрапацэнтрычнасць, — рыса, характэрная для ўсёй літаратуры XX стагоддзя. І кожны з навукоўцаў, закаханых у сваю тэму, лічыць, што менавіта «яго перыяд» — вяршыня развіцця, росквіт магчымасцяў і відавочная сталасць. Але такая апантанасць прадметам сваіх доследаў у прынцыпе — рыса вельмі сімпатычная.

Сваю канцэпцыю асобы аўтарка кнігі выбудоўвае на падставе твораў Якуба Коласа, М. Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, прычым паказвае праблему чалавека ў дынаміцы: «Калі ў час стварэння “У палескай глушы” Якуба Коласа і аповесцяў М. Гарэцкага актуальнымі з'яўляліся праблемы абуджэння народа, усведамлення інтэлігенцыяй сваёй ролі ў гэтым працэсе, то ў час стварэння рамана “Сястра” — сцвярджэнне права на роздум, уласны погляд. Калі для Андрэя Лабановіча і Лявона Задумы вызначальнае — усведамленне і пошук шляхоў свайго служэння народу, то для герояў Кузьмы Чорнага актуальным становіцца захаванне аўтаномнасці сваёй асобы, сцвярджэнне самакаштоўнасці чалавека».

Кніга «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці XX стагоддзя» з'явілася вельмі своечасова. Па-першае, яна адпавядае пажаданням сучасных літаратуразнаўцаў паглыбляць даследаванні ідэйна-філасофскіх кампанентаў беларускай літаратуры паводле нацыянальна-культурных кодаў. Па-другое, яна выводзіць нацыянальнае літаратуразнаўства на якасна новы ўзровень, які з поўным на тое правам можна лічыць міждысцыплінарным. Па-трэцяе, менавіта цяпер каардынаты беларушчыны запатрабаваныя не толькі даследчыкамі літаратуры, але і шырокім грамадскім колам.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

# 500 старонак выбранага




**Да падсумавання творчага здабытку Міхась Башлакоў падышоў грунтоўна: у «Народнай асвеце» выйшла аб'ёмная кніга лірыкі «Далеч вячэрняя».**

Можна падумаць, размова ідзе пра анталогію пэўнага перыяду літаратуры адной асобна ўзятай краіны. Аднак — не. Паўтысячы старонак лепшага, па вызначэнні самога аўтара.

Звычайна ў такі аб'ём змяшчаецца няпоўны збор твораў пісьменніка. Можна спаслацца на тое, што кніга «Далеч вячэрняя» акром вершаў змяшчае яшчэ й паэмы і араторыю. Паэмы пакінем да артыкула пра гэты жанр, а пакуль засяродзімся на першай частцы кнігі, якая ўключае вершы, напісаныя ў 1968 — 2013 гадах.

Калі збор твораў ахоплівае вялікі прамежак часу, узнікае спакуса параўнаць самы ранні верш і самы позні. Паглядзець, так бы мовіць, з чаго пачыналі і чым завершылі. А пачынаў Міхась Башлакоў з тонкіх, лірычных накідаў, дзе чалавек і прырода — непадзельнае цэлае. Юны, васямнаццацігадовы паэт ашчадна ставіўся да слова. Возьмем верш «Ранак», якім адкрываецца мастацкая частка кнігі. Кароткі радок — выразны, завершаны штрых. Карціна паўстае светлая, далікатная, пранізаная сумам — ужо тут адчуваецца шкадаванне пра заканчэнне ўсякага шляху. Спрацоўвае эфект пазнавання: цяжка застацца абыякавым да апісанняў вясковага ранку; да ўсяго, спрацоўваюць беларускія «патэрны»: «маці паліць у печы», «на двары верны конь», промень сонца на ганку і далей у тым жа рэчышчы. Небанальным робіць гэты верш недамоўленасць, стан героя, які не выказваецца наўпрост, але рэтранслюецца праз інтанацыю верша.

Ад такога юнака варта было чакаць вялікага плёну...

Так, Міхась Башлакоў — паэт прыроды, пейзажных замалёвак, і якраз такія творы акрэсліваюць кола найлепшага.

Шэраг вершаў варта вылучыць: «Ранак», «Лодкі», «Перад паводкай», «Раніца на Прыпяці», «Сафійскі сабор», «Пажоўклае фота», «Вясновы дождж», «***Лясная Убарць…», «Гром па вясне», «Лістапад», «***Пясчаны бераг ля Нароўлі», «***Лясная сцежка выведзе да соснаў…», «***Задымлены касцёр…», «Летні дождж», «Зімовая ціша», «Мастак», «Прадвесне», «***Вясёлыя вакацыі…».

Паўсотні лаканічных пейзажных малюнкаў маглі б скласці неблагі лірычны томік. У такой кнізе сапраўды можна было б вылучыць адметнасць менавіта паэта Башлакова, такой кнігай можна было б абазначыцца ў вялікай плыні сучаснай паэзіі.

Галоўнае пытанне (для мяне, прынамсі): чаму Міхась Башлакоў сённяшні не адышоў далёка, а ў нечым нават саступае сабе ж васямнаццацігадоваму?

Цікава, што адкрывае кнігу аўтабіяграфічны нарыс... на 20 старонак.

Яшчэ раз звернем увагу на аб'ём выдання. Па-першае, нават беглае знаёмства са зместам кнігі паказвае, што не ўсё тут сапраўды найлепшае. Па-другое, сярод вершаў, якія не належаць ні да эпігонства, ні да апісальнай рэфлексіі без вобразнасці, шмат паўтораў. То бок, самапаўтораў. Гэта можна было б выключыць — пры больш сур'ёзным падыходзе да паэзіі і менш сур'ёзным — да сябе. У выніку ўжо на старонцы 60-й цяжка ўспрымаць вершы як асобныя, цэласныя творы, — усе яны зліваюцца ў адну бясконцую песню пра жураўліныя крыкі, спакусную каханку, вясковыя гармонікі і прамінулую маладосць, сыход якой сімвалізуецца восенню, лістападамі, горкім дымам…

Асобная гаворка пра пасляслоўе і анатацыю. І тое, і другое пачынаецца не са сціслай характарыстыкі прэзентаванай творчасці, як можна было б чакаць. Тэксты заяўляюць: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхась Башлакоў. Аднак той, хто да літаўраў і фанфараў мае трывалы імунітэт, увагу найперш звяртае на якасць тэкстаў.

> *Звычайна ў такі аб'ём змяшчаецца няпоўны збор твораў пісьменніка. Можна спаслацца на тое, што кніга «Далеч вячэрняя» акром вершаў змяшчае яшчэ й паэмы і араторыю.*

Да аўтаркі пасляслоўя, Людмілы Вараб'ёвай, гэтаксама ёсць пытанне. Пані Людміла піша, што духоўнасць, маральная чысціня і родная мова складаюць нашую самасвядомасць ды ідэнтычнасць. Празрысты намёк на тое, што ўсе гэтыя складнікі маюцца ў паэзіі Міхася Башлакова, што робіць яго «паэтам ад Бога». Тое, што чалавек піша па-беларуску, яшчэ не дадае яму, кажучы проста, плюсікаў у карму. Мова — усяго толькі інструмант, калі казаць пра мастацтва.

Галоўная праблема кнігі — адсутнасць выбаркі. Незаўважная праца рэдактара. Прафесійны рэдактар, безумоўна, звярнуў бы ўвагу паэта на тое, што той падмінае мову пад сябе. Будзь ты хоць першым геніем сярод геніяў — нельга пачынаць верш з «Ў», перастаўляць націск у слове дзеля рыфмы (нікуды — гады), ужываць няправільныя граматычныя формы ды русізмы (*вядзёр, аблакоў, уеццца, у спешцы, высь, ручэй, поезд, услых, устрапянулася* і інш.). Сустракаюцца праблемы з гучаннем верша. Вядома, гэта не той маштаб, што ў Коласавым «ужо півоні расцвілі», і ўсё ж: падпарадкоўваючыся рытміцы верша, словы зліваюцца, утвараючы дзіўныя *яшчэгай, тыптаха, аждух, іваблік, абсукі* і інш.

Як адзін з чытачоў, хачу выказаць пажаданне (ніяк не параду): добра было б пабачыць невялікі томік выбранага паэзіі Міхася Башлакова, томік, дагледжаны рэдактарам, у які б увайшлі сапраўды найлепшыя малюнкі мастака-пейзажыста.

**Наста ГРЫШЧУК**

<u>*Палеміка*</u>

**Валеры ГАПЕЕЎ:**



# «Сцвярджэнне літаратуры — гэта не адно нобелеўскія фанфары...»

(да артыкула «Слова ў абарону крылатае душы...» («ЛіМ» № 11, І. Жук) пра манаграфію І. Штэйнера «Валадар над усім»)

**«Голад аказаў вялікі ўплыў на аблічча літаратуры ўвогуле і беларускай літаратуры ў прыватнасці, якой у значнай ступені якраз і не хапала кавалачка мяса, каб сцвердзіцца да канца» (цытата з манаграфіі І. Штэйнера, вакол якой прапаноўвалася палеміка).**

Няма сэнсу спрачацца з паважаным аўтарам пра тое, што голад — адно з самых моцных пачуццяў чалавека. Адзін мой герой, калі расказвае пра сваё каханне, ужо не маладое, параўноўвае яго якраз з пачуццём голаду, якое зведаў: «Некалі давялося мне па-сапраўднаму тры дні сядзець галодным. Малады яшчэ зусім быў, застаўся без грошай, а знаёмага — ніводнага ў горадзе… І вось на трэці дзень я куды ні йшоў, чым ні займаўся — думаў пра хлеб. Не, нават не думаў — хлеб быў пастаянна ў маёй галаве, ва ўсім! Я чуў яго пах. Адчуваў смак, пальцамі мацаў шурпаты бачок… Не, не трызніў, а вось… са мной той хлеб, са мной неадступна! Дык вось цяпер згадаў я той хлеб — мне ім Верачка стала. Не думаю я пра яе — яна проста са мной і са мной. Дні, тыдні, месяцы і ўжо вось два гады…»

Такім чынам, цалкам я на баку аўтара.

Вось толькі словы пра мяса, якога не хапіла нашай літаратуры, увялі мяне ў ступар, нарадзіўшы не адно пытанне.

Чаму не хапіла?

Чаму наша літаратура не сцверджаная да канца?

Хто і як, чым вызначае гэтае сцверджанне?

Што мае на ўвазе аўтар пад «мясам»?

На маю думку, культура і літаратура, як яе частка, ёсць вынікам агульнага развіцця грамадства. Як кажуць, што можам, тое і маем. Пэўны час наша грамадства ішло па законах, якія ў многім дыктаваліся не эвалюцыйным развіццём, а партыйнай ідэалогіяй. І мы атрымалі ўрэшце не натуральны культурны прадукт, а штучны эрзац, у якім, дзеля справядлівасці адзначым, усё адно знаходзіліся перлінкі сапраўднай мастацкай думкі. Што ўрэшце, хай і запаволена, але развівала літаратуру ў агульначалавечым рэчышчы.

Калі паважаны прафесар кажа пра мяса, якога не хапіла, дык я мяркую, ён кажа якраз пра гэты перыяд. Бо ў наступныя гады, у беспартыйным асяродку, літаратура атрымала выключна ўсё для развіцця: свабоду, магчымасці (інтэрнэт). Іншая справа, што свабода ў нечым падобная да лекаў: трэба ўмець ёй карыстацца…

Ні ў якім разе не магу згадзіцца з тым, што беларуская літаратура не сцвердзілася. Паважаны аўтар сам жа і ўскосна пярэчыць сабе, кажучы такое, бо ў аснове яго працы ўпаравень з сусветнай літаратурай цытуюцца і беларускія творы.

Сцвярджэнне літаратуры — гэта не адно нобелеўскія фанфары… І зусім не нобелеўскія фанфары. Літаратура, як і пісьменнікі, нікому і нічога ў грамадстве не павінныя. Бо, яшчэ раз паўтаруся, літаратура — прадукт развіцця грамадства, а прадукт не можа быць нечым абавязаны яго стваральніку, як дзіця нічым не абавязанае маці за сваё нараджэнне.

Але сам факт існавання літаратуры ёсць паказчыкам нармальнага грамадства.

Чаму наша літаратура сёння вось такая, якая ёсць, пярэстая, недзе разгубленая, не здольная быццам на маштабны твор? Ды толькі таму, што само грамадства пакуль не ўяўляе з сябе цэльны кангламерат, не мае выразнай агульнай ідэі яднання…

Не трэба навязваць літаратуры задач, кшталту адгукацца на вялікі часу і падобнае. Асэнсаванне — праца дзесяцігоддзяў, а не месяцаў ці гадоў. А ў сённяшняй пярэстасці літаратуры якраз і ёсць цалкам адлюстраванне нас саміх…

## Іван КАПЫЛОВІЧ



***

*Адкрыюцца прасторы,*
*Нябачныя раней.*
*Тым часам непаўторным*
*Я рос і каранеў.*

*Ішоў я спорным крокам,*
*Глядзеў удалячынь*
*І думкаю глыбокай*
*Свой кволы дух лячыў.*

*Паспеў пабачыць многа,*
*Да таямніц прынік.*
*Вяла мяне дарога*
*У свет, які я сніў.*

*У твар біў золкі вецер —*
*Я не спыняўся, не.*
*Што мала ладу ў свеце,*
*Мой выклікала гнеў.*

*І млела сэрца ў шчасці,*
*Калі на нейкі міг*
*Спынялася нянасце*
*І буры шал аціх.*

***

*Я час увесь вучуся —*
*Зямныя множу ўрокі,*
*Цяжкія лёсу крокі —*
*Я дзень пры дні кручуся.*

*Чакаю з утрапеннем*
*Вясновае надвор'е.*
*Мой шлях у тым сузор'і,*
*Дзе воля і цярпенне.*

*Дзе я ў палоне мрояў*
*Спазнаю азарэнне*
*І ўдача ды натхненне*
*Сустрэнуцца са мною.*

*Я думак лад настрою,*
*Не размінуся з часам:*
*Ідзе ён зорнай трасай*
*І кліча за сабою.*

***

*О, дайце мне, нябёсы, веры,*
*Каб я душою акрыяў,*
*Каб менш у поцемках блукаў*
*І адчыніў святліцы дзверы.*

*Дай, дзень, больш розуму і сілы,*
*Каб я рабіў за крокам крок —*
*У тым напрамку ісці мог,*
*Дзе мяне ўпэўненасць натхніла б.*

*Ты смагу волі наталі,*
*Паляна светлая ясная.*
*Тады я ўміг уваскрасаю,*
*З табою стрэнуся калі.*

*Вы, зоры, шлях мой асвятліце,*
*Каб азірнуцца мог назад*
*І летняй ноччу ў зарапад*
*Пачуў бы перапёлку ў жыце.*

*Дарогай доўгаю стамлёны,*
*На хвілю сяду, адпачну,*
*Сабе скажу: як лёс ні гнуў,*
*Свет прада мною не замглёны.*

***

*Няхай не пакіне мяне*
*Усё тое, што сутнасцю стала,*
*Калі я сталеў, каранеў*
*І часу на ўсё неставала.*

*Хай вернецца святасці міг,*
*Што думкай і сэрцам адзначу.*
*Не ўсё, аб чым марыў, спасціг:*
*Знаў крыўду і смак знаў няўдачы.*

*Хай побач заўсёды ідзе*
*Нязгода мая да чужога,*
*Каб кожны наступны быў дзень*
*Без ценю і смутку былога.*

*Аблокі плывуць нада мной,*
*Як белыя лебедзі тыя.*
*Ісці хачу той стараной,*
*Дзе думкі сустрэну святыя.*

*Ах, думкі! Як сумна без вас*
*Парой безнадзейнай, тужлівай.*
*Вярнуцца хачу ў той дзень-час,*
*Што быў да мяне справядлівы.*

***

*Трава мая высокая,*
*Аб чым гамоніш ты?*
*Я думкаю глыбокаю*
*Акрэслю дня мяты.*

*І летуценні птушкаю,*
*І лёгка на душы:*
*Настрой харошы гушкае —*
*Я свету не чужы.*

*Між травяў сцежка цупкая*
*Ўсё кліча да сябе:*
*Зазначу яснай думкаю:*
*Мінаюць дні ў журбе.*

*Я слухаў травяў шолахі*
*І птахаў галасы,*
*Зары дзівіўся сполахам —*
*Хінуўся да расы.*

*Пачую золкай раніцай*
*Я росаў буйных звон:*
*Душа мая ўзірацца —*
*Прад ёю ява, сон?*

## Васіль ЗУЁНАК



***

*Час дадзены: пабыць травінкай роснай,*
*Паразумецца з лёгкім матыльком,*
*Адчуць, як робіцца душой тваёю колас,*
*І ўзвысіць бор сасною хмарачоснай,*
*А завяршыўшы сонечнае кола,*
*Не прыхапіць з сабой святло тайком…*

*Тым чалавек, відаць, і несмяротны,*
*Што ён праменьчык радасці зямной*
*Прыняў ад пакаленняў і стагоддзяў,*
*Каб перадаць па-боску — незваротна —*
*Тым, хто з хаосу небыцця выходзіць*
*Насустрач — і з калыскай, і з труной…*

***

*Акіян, вялікі сон планеты,*
*Памяць да-жыцця і абярог, —*
*Ці не сніў калісьці і мяне ты*
*Ў судны час маіх зямных дарог?*

*Акіян, вялікі жыццядайнік*
*Існаму ўсяму, што на зямлі*
*Велічу асвечана астральнай,*
*Дзе і мы пасад свой набылі, —*

*Духу абсалютнага супернік,*
*Сцежку мне ці сцвердзіў з небыцця,*
*Ці жыцця салодкі міг, як пернік,*
*Даў, абы не плакала дзіця?..*

*Акіян, зямлі біякалыска,*
*Пераможца мёртвай нематы,*
*Зорную з зямлёю перапіску*
*Ці напраўдзе мне даверыў ты?*

*І ў якую з безлічы малекул*
*Ты праграму зорную занёс*
*Аднаму — з мільярдаў — чалавеку,*
*З кім спаткаўся на зямлі мой лёс?..*

***

*Дзе вы, русалкі, дзе крыніцы тыя,*
*З якіх ваду жывую бралі вы,*
*Каб выплываць на берагі крутыя*
*І голас нам, жывым, падаць жывы?*

*Штоноч выходжу, але вас не чую:*
*Маўчанне — поўняю і ў маладзік.*
*І што маўчанне ваша нам вяшчуе?*

*Ці ваш давер да нас навечна знік,*
*Ці мы, жывыя, перасталі верыць*
*У ваша існаванне й назаўжды*
*Ў лухту вас залічылі і ў хімеры,*
*І вашы ў снах згубіліся сляды?..*

*Ці ўся бяда, што рэкі, ваш прытулак,*
*Мы зруйнавалі і красу азёр*
*Так культывуем з рэкамі агулам,*
*Што паратунак ваш — ляцець да зор…*

*Там заплятаць вянкі з іскрыстай Вегай,*
*У ноч купальскую з Капэлаю спяваць,*
*А мне з маім, пры вогнішчы, начлегам*
*Вас полымем зямным вітаць-гукаць…*



Фота Кастуся Дробава.

*Хоць ведаю: цяпер вы як чужыя,*
*За вас малюся, дзеці зорных сфер,*
*Што ў крыўдзе на людзей былі жывыя,*
*У крыўдзе засталіся і цяпер…*

**Больш вершаў Васіля Зуёнка шукайце ў красавіцкім нумары часопіса «Полымя».**

## Дзмітрый ДЗЕМІДОВІЧ

**Сёння святкуе 70-годдзе паэт, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрый Дземідовіч. Увазе чытачоў — падборка вершаў юбіляра.**



## У бярозавым гаі

*Я толькі-толькі быў зусім цвярозы —*
*Цяпер не маю цвёрдае хады:*
*Упіўся водарам жывым бярозы*
*Ды ветрыкам пяшчотным маладым.*

*Усёй сваёй істотай адчуваю,*
*Як лес мне ціха шэпча:*
*— Адпачні!*
*І ў песнях птушак, што цяпер лятаюць*
*Спакойна ў неабсяжнай вышыні,*

*І ў шуме траў, што на лясных палянах,*
*У шапаценні радасным лістоў,*
*У звоне пчолак ціхім і старанным*
*Я чую песню гожую без слоў.*

*І сэрца лёгка запаўняе радасць,*
*І мне няма саромецца чаго —*
*Заўжды мне ў гэтым месцы будуць рады,*
*Прыродзе гэтай я жаданы госць.*

*Я абдымаю белыя бярозы*
*І да грудзей я прыціскаю іх.*
*З вачэй цякуць самі сабою слёзы —*
*Пачуццяў сведкі радасных маіх.*

*А хмель мацней кідае мяне, кружыць,*
*І сіла невядомая трасе.*
*Нібы хваробай нейкай занядужаў,*
*На ложак апусціўся пакрысе.*

*Засланы ложак шаўкавістым мохам,*
*І калыханку жаўранак пяе.*
*Прылягу тут я, адпачну хоць трохі —*
*Вы не крыўдуйце, родныя мае!*

***

*Травой сухой запоўнена гумно,*
*І толькі зрэдку ветрык сена гушкаў.*
*Ад працы зmораны, я забываўся сном —*
*Тут сон быў лепшым, чымся на падушках.*

*І сніліся далёкія краі,*
*І залы ў фарбах мармуровых,*
*І штучныя заморскія гаі*
*Ў, на першы погляд, незямных абновах.*

*Па розных сцежках і шляхах ісці*
*Па волі часу, лёсу давялося,*
*Ды лепшых сноў не бачыў у жыцці,*
*Чым той далёкі сон. Ён адгалоссем*
*У думках, памяці і пачуцці.*

***

*Мне вярнуць бы былыя гады,*
*Дні вясновыя, сны залатыя,*
*Калі быў я яшчэ малады*
*І бацькі — ну зусім маладыя.*

*Тыя ночы, спатканні да дня,*
*Любы твар мной каханай дзяўчыны,*
*Дзе нявестамі быў беразняк,*
*Добрай музыкай хор быў птушыны.*

*Ты ўсё можаш, мой пройдзены лёс.*
*Успамінамі вернецца тое,*
*Што згубіў, што знайшоў і прынёс, —*
*Гэты вопыт і скарб як святое.*

*Успаміны бяруць з новай сілай,*
*Напльваюць і справы, і дні…*
*Толькі зробленых мною памылак,*
*Лёс, прашу, ты назад не вярні!*

***

*Гляджу ў неабсяжнасць нябёс —*
*І птахамі думкі да Бога:*
*Там наш вырашаецца лёс —*
*І мой, і людзей яшчэ многіх.*

*Мы часта наўмысна грашым,*
*Патрэбы — на першае месца…*
*Прытулку няма для душы,*
*Ледзь б'ецца астылае сэрца.*

*Трымаем свае камяні,*
*За пазухай камень трымаем.*
*Усявышні глядзіць з вышыні —*
*Што робім мы тут, паглядае.*

*Але не прымае удзел*
*У нашых шматлікіх трывогах,*
*Дае ён нам шанц у бядзе*
*Самім выбраць шлях свой, дарогу.*

*Гляджу ў неабсяжнасць нябёс,*
*Шукаю адзіны напрамак,*
*Там наш вырашаецца лёс,*
*Але й на зямлі тут — таксама.*



Міхась ПАЗНЯКОЎ

# ВАЛОДЗЬКА

*Апавяданне*

На прыпынку мяне сустрэў сын Руслан. Загарэлы, вясёлы, ён, падалося, за два летнія тыдні ў бабулі, падрос, падужэў. Зусім па-дарослаexisting падаў мне руку. Я не ўстрымаўся, падхапіў яго ў абдымках:

— Ты ў нас ужо вялікі, сынок!..

— А ты вуду мне прывёз, тата? — перавёў гаворку сын.

— Прывёз, вядома.

— А мяч? А бінокль — купіў? А новыя кніжкі?.. — сыпаў ён пытанні.

— Прывёз, Руслан, нічога не забыўся, — супакоіў я сына. — Хваліся лепш сваімі справамі, вядзі да бабулі.

— Валодзька! — Раптам схамянуўся Руслан. — Ідзі сюды.

Толькі цяпер я заўважыў белагаловага загарэлага хлопчыка, крыху меншага за Руслана. Па ўсім было відаць, што ён з вясковых.

— Знаёмся, тата. Гэта Валодзька. Мы сябруем. Ён жыве ў бабы Насты.

Руслан на момант сумеўся, потым, ступіўшы на крок бліжэй, спачувальным голасам шапнуў мне:

— У яго таткі няма, а мама ў горадзе недзе.

— Добры дзень, Валодзька, — падаў я руку хлопчыку. — Будзем разам рыбу лавіць?

— Ага, — ціхмяна згадзіўся той, пазіраючы вялікімі васількловымі вачыма.

— Ён малы яшчэ, толькі ў трэці клас перайшоў, але і працавіты, — зазначыў Руслан.

— Малайцы! — пахваліў я сябрукоў.

Хлопчыкі пайшлі паперадзе, ведучы сваю дзіцячую гамонку. Адпачыўшы з дарогі, я сабраў вуды. Руслан з Валодзькам накапалі чарвякоў, і мы пайшлі на рыбалку.

— Татка, трэба было тры вуды везці, — заклапочана заўважыў Руслан.

— Нічога, сынок, — здагадаўся я, пра што ён падумаў. — Валодзька будзе лавіць маёй вудай, а я пагуляю каля ракі. Так, Валодзька? — прыгарнуў я да сябе хлопчыка.

Валодзькаў твар асвяціла шчаслівая ўсмешка.

Вось і рэчка. Сонца ўжо вісела над лесам, апусціўшы ў яго свае шырокія малінавыя промні. Гарачыня спадала, мы выбралі прыдатную мясцінку, закінулі вуды. Некалькі хвілін нічога не клявала.

— Можа, лепшае месца пашукаць? — засумняваўся Руслан.

— Не спяшайцеся. І не размаўляйце, — шэптам сказаў я, — рыба не любіць шуму.

Не паспеў я адысці ад рыбакоў і на дзесяць крокаў, як сын узрушана закрычаў:

— Татка! Татка! Клюе!..

— Падсякай!

Руслан рвануў вуду, і, пабліскваючы срабрыстай луской, у паветры мільганула ладная плотка.

— І ў мяне, тата, клюе! — праз нейкую хвіліну закрычаў Валодзька.

Я падбег да яго, і праз імгненне другая плотка бліснула над нашымі галовамі і затрапяталася ў траве.

— Гэта ж мой тата, — засмяяўся Руслан, пазіраючы на мяне.

— Распалохаеце ўсю рыбу, — перапыніў я сына. — Валодзька проста агаварыўся, а ты прысароміў яго...

Валодзька прысеў у траве, прымацоўваючы на кручок чарвяка. Але той ніяк не начэпліваўся... Я падышоў і дапамог.

Вечарам варылі юшку. Я чысціў рыбу, Руслан абіраў бульбу, Валодзька збіраў галлё для кастра, завіхаўся, дапамагаў ва ўсім. Я размаўляў з ім і радаваўся яго дзіцячай непасрэднасці, кемлівасці, стараннасці.

Калі юшка была гатовая, Валодзька прынёс слоік.

— Цяпер агонь трэба заліць вадой, каб пажару не было і торф не загарэўся, — паважна падказаў ён. Я пахваліў хлопчыка.

З гэтага дня, ідучы на рыбалку, мы заўсёды клікалі Валодзьку.

Вельмі падабалася Валодзьку гуляць у футбол. За агародам, на пустцы, было невялікае футбольнае поле. Свайго маленькага сябрука я кожны раз браў у нашу «гарадскую» каманду. Ён вельмі радаваўся, калі, забіўшы гол у вароты каманды вясковых хлапчукоў, я падбягаў да яго, браў на рукі і некалькі разоў падкідваў угору. Валодзька стаяў на варотах і вельмі перажываў прапушчаныя галы.

— Нічога, — супакойваў я тады хлопчыка, — адыграемся. А падрасцеш — ніводнага мяча не прапусціш.

Аднаго разу я не пайшоў гуляць у футбол з хлопчыкамі, і Валодзька адмовіўся стаяць на варотах.

— Прыйдзе Русланаў тата, тады і я буду гуляць, — заявіў ён.

— А ты пакліч свайго, хопіць яму сабакам сена касіць, — здзекаваліся большыя.

Валодзька заплакаў і пабег дадому.

Два дні я не бачыў яго. Неяк пасля сняданку мы з сынам сабраліся ў лес: з'явіліся лісічкі. Па дарозе зайшлі да Валодзькі. Хлопчык вельмі ўзрадаваўся і папрасіўся з намі. Бачачы, што і я пайду з дзецьмі, баба Наста адпусціла яго.

По дарозе Валодзька расказваў нам пра свае грыбныя знаходкі ў мінулае лета, пра тое, як аднойчы яму «вельмі ўжо ж пашэнціла», бо знайшоў ажно дваццаць пяць баравікоў — ладных, крамяных, духмяных.



*Фота Кастуся Дробава.*

Я запытаў, якія грыбы яшчэ трапляліся яму.

— Маслякі, абабкі, сыраежкі, свінушкі, рыжыкі, грузды, ваўнянкі, зялёнкі, падсасонкі, — пералічыў Валодзька.

Ведаў ён і мясцінкі, якія асабліва падабаліся грыбам, бо прывёў нас адразу на невялічкую палянку, дзе густа высыпалі першыя лісічкі.

Збіраючы грыбы, я зайшоў у густы малады ельнік. Выбіраючыся назад, пачуў немы Валодзькаў крык:

— Га-а-ай! Та-та!

Я рвануўся на голас і праз некалькі секунд быў ля Валодзькі.

— Што? Ты чаго? Што з табой, мой хлопчык?..

— Там, там воўк пад кустом... — паказаў Валодзька на арэшнік.

Я зазірнуў пад куст, але, апрача струхлелага пня, там нічога не было.

— Супакойся, Валодзька. Супакойся, сынок. Гэта гнілы пень, а воўк баіцца нас, яго тут і блізка няма. Вунь і Руслан так скажа.

Я ўзяў Валодзьку за руку, і цяпер мы збіралі грыбы разам. Хлопчык расказваў, смяяўся, падсвістваў птушкам, нібы перад гэтым нічога і не здарылася.

# ПРАСКОЎЯ ІЛЬНІЧНА

*Апавяданне*

Калі я прыехаў працаваць у Ягадскую васьмігадовую школу Бярэзінскага раёна, дырэктар вельмі ўзрадаваўся: яшчэ адзін мужчына-педагог — гэта выдатна. І кватэру ён мне ўжо напытаў. Пасля знаёмства адразу пакіравалі да месца майго будучага кватаравання. Ісці патрэбна было ў суседнюю вёску Цярэсіна, а гэта зусім блізка. Вёскі падзяляла невялікая лугавіна з маленькай рачулкай. Хата гаспадыні стаяла ў самым канцы вуліцы, за сядзібай пачыналіся гушчар, праз які звілістая сцяжына вяла ў вёску Мяжонка суседняга Бялыніцкага раёна. Дворык спадабаўся чысцінёй, упарадкаванасцю. Хата выглядала ніштавата: на падмурку, ашаляваная, крытая шыферам, з вялікімі вокнамі, чаго я не чакаў, бо, як казаў дырэктар, жыла тут адна бабуля. Дачка і сын даўно аддзяліліся, маюць асобныя хаты. Дзверы адчыніла невысокая ласкавая жанчына гадоў сямідзесяці.

— Заходзьце, заходзьце, калі ласка, — прывітаўшы, запрасіла яна. — Будзьце як дома. Вось Ваша палавіна, — адчыніла яна пафарбаваныя дзверы ў вялікую святліцу, не зводзячы з мяне цікаўных вачэй. Мабыць, не чакала, што настаўнік зусім малады.

Пакой вельмі спадабаўся. Пасярэдзіне — круглы стол і два крэслы, за імі сервант, справа канапа, злева, у глыбіні пакоя, стаяў металічны ложак з бялюткімі падушкамі. А ля ўвахода — грубка з шырокай ляжанкай. І ложак, і грубку адгароджвала квяцістая шырма. Я нават не спадзяваўся ўбачыць такія харомы.

Калі дырэктар пайшоў, пачаў раскладваць прывезеныя кнігі і рэчы, радуючыся пасля цеснага мінскага пакойчыка такой раскошы і волі.

Неўзабаве гаспадынька запрасіла за стол, на якім ужо чакалі мае любімыя дранікі, смачны боршч і смажаная вясковая каўбаса. А ў вялікай місцы — агуркі і памідоры з бабінага агарода.

Пазнаёміліся крыху бліжэй. Дабрынёй, лагоднасцю, шчырасцю Праскоўя Ільнічна нагадвала мне матулю.

Працавалася добра, цікава. У школе — з раніцы амаль да вечара. Гэта быў мой першы настаўніцкі год, таму імкнуўся ва ўсім быць асабліва старанным, актыўным — напрацоўваць аўтарытэт. Жылося ў бабулі Параскі (так называлі яе ў вёсцы) утульна, спакойна. У вольны час, калі не ад'язджаў да сваіх, не прамінаў магчымасці дапамагчы бабулі па яе невялічкай гаспадарцы: скасіць лужок, пакалоць дровы — не зломак жа, у вёсцы нарадзіўся і рос. А гаспадынька ажно ніякавела:

— Мінскі настаўнік — і касіць добра ўмее нават!

Радаваўся, што ў мяне такая цудоўная гаспадыня. Неаднойчы мае вучні з далёкай вёскі па дамоўленасці з бацькамі пасля школьных вечароў заставаліся на ноч у Праскоўі Ільнічны.

Ды недзе праз паўгода, вярнуўшыся пасля выхадных з Мінска, я застаў у хаце заплаканую і надта засмучаную гаспадыню. На яе палавіне хаты быў нязвыклы беспарадак.

«Напэўна, сын п'яны наведваўся», — падумаў я, ведаючы, што той часам злоўжывае гарэлкай.

Не паспеў распытаць, што да чаго, як той, сапраўды п'яны, уваліўся ў хату:

— Дзе бутэльку схавала? У сене няма! — зароў ён з парога. Але, убачыўшы мяне, асекся.

Я заступіўся за маці, стаў паміж імі і папрасіў яго выйсці. Той даволі спрытна выслізнуў з хаты. Ад майго спакойнага заступніцтва, увагі і цеплыні Праскоўя Ільнічна расплакалася яшчэ больш. Магчыма, і ад сораму, усведамляючы, што ад роднага сына яе бароніць чужы чалавек.

Раптам дэбашыр з лютай грымасай на твары ўварваўся ў хату. Над галавой у руцэ ён трымаў сякеру:

— Пазасякаю! — шчэрыўся ён. — Каб я цябе тут не бачыў! — працягваў раўці сын, а затым пайшоў прама на мяне.

Я паціху адступіў за стол і загарадзіўся ім. Гаспадыня тым часам схавалася на печ.

— Я тут камандую! — кінуўся ён да печы. — Бутэльку — хутка!

— Хопіць піць! Не чапай маці! — павысіў я голас.

Пятрок, так звалі сына гаспадыні, рвануў у мой бок і з усяе сілы ўвагнаў сякеру ў падлогу перад сталом. На печы галасіла Праскоўя Ільнічна. Я трымаўся спакойна, упэўнена, гаварыў разважліва, і гэта, напэўна, крыху ацверазіла дэбашыра.

— Не прынясеш гарэлку, горш будзе, — ужо нашмат мякчэй вымавіў Пятрок, павярнуўшыся да маці, затым выцягнуў з падлогі сякеру і моўчкі падаўся з хаты.

Як мог, я супакоіў Праскоўю Ільнічну. Заварыў чай, дастаў цукеркі і запрасіў яе да стала. І толькі налiваючы чай, адчуў, што ў мяне дрыжаць рукі. Пэўна, ад напружання, якое спала.

Назаўтра, калі я збіраўся ў школу, гаспадыня зазірнула на маю палавіну.

— Не заяўляй, сынок, на Пецю ў міліцыю, — вінавата папрасіла яна. — Ён жа сын мне ўсё-такі. Гарэлка вінаватая, не ў сваім розуме быў...

Я, вядома, супакоіў Праскоўю Ільнічну, запэўніўшы, што не паскарджуся. Ды мне і ў галаву не прыходзіла звяртацца ў міліцыю.

Частуючы мяне сняданкам, добрая гаспадынька хавала вочы — няёмка ёй было. Як глыбокасумленны чалавек, яна, пэўна, адчувала сябе вінаватай за сына. Выходзячы з хаты, я паглядзеў на Праскоўю Ільнічну. Усміхнуўся і прачытаў у яе вачах і падзяку, і прабачэнне, і кволую ўсмешку, і просьбу не пакідаць яе. Я застаўся жыць на гэтай кватэры.

Праз некалькі дзён, сустрэўшы мяне на вуліцы, Пятрок папрасіў прабачэння. Я затрымаў яго руку і міралюбіва паглядзеў у вочы... Болей п'яны да маці ён не заходзіў. Паступова Праскоўя Ільнічна ажыла, да яе зноў вярнуліся лагодная, прамяністая ўсмешка і добры настрой.



## Валеры МАРОЗАЎ:

# «МЕНАВІТА ГІСТОРЫЯ НАПАЎНЯЕ АРХІТЭКТУРУ ЗМЕСТАМ»

***Нашы гарады і мястэчкі аднаўляюцца, архітэктура развіваецца, прыўносячы новыя стылі, робячы жыццё камфортней. Нельга не заўважыць, як шмат новых будынкаў з'яўляецца нават сярод гістарычнай забудовы. Але не заўсёды можна сказаць пра сучасныя пабудовы, што яны ўдалыя. Ці можна знаходзіць правільнае рашэнне пры спалучэнні старога і новага, не руйнуючы духу часу, сувязі стагоддзяў?***

***Гэтую тэму даследуе Валеры Марозаў — доктар архітэктуры, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта, кіраўнік секцыі культурна-гістарычнай спадчыны, рэстаўрацыі і рэканструкцыі Беларускага саюза архітэктараў, аўтар кніг, манаграфій, прысвечаных гісторыі архітэктуры Беларусі. У выданнях «Гомель класічны. Эпоха. Мецэнаты. Архітэктура», «Архітэктура памежжа культур Беларусі, Літвы і Польшчы. Эпоха класіцызму» спрабуе адказаць на пытанні, якія хвалююць сучаснікаў. Цяпер даследчык працуе над новай кнігай «Стыль і напрамкі ў архітэктуры Беларусі канца XVIII — першай паловы XIX стагоддзя».***

— Возьмем еўрапейскія сталіцы — Рым, Парыж, Лондан, — распавядае Валеры Марозаў. — Там побач з будынкамі XVIII — XIX стагоддзяў стаяць сучасныя пабудовы ў стылі хай-тэк, постмадэрну, якія ўдала ўпісваюцца ў старую забудову. І ні ў каго не выклікаюць пратэстаў. Таму што яны зроблены прафесійна і разумна.

Звернемся да нашай сталіцы. Былая Саборная плошча — цяпер плошча Свабоды ў Верхнім горадзе — была яшчэ нядаўна па гістарычных мерках цэнтральнай часткай, да яе далучаліся квартал Няміга, забудова Ніжняга горада, альбо Ніжняга рынку. Увогуле, Мінск да атрымання статусу сталіцы быў невялікім. Да Другой сусветнай вайны ў ім было каля 300 тысяч жыхароў. На жаль, барацьба з рэлігіяй паўплывала на тое, што Саборную плошчу яшчэ да вайны значна зруйнавалі. Падчас вайны Мінск моцна пацярпеў, ды і пасля было шмат чаго згублена!

Але новыя тэхналогіі, дасягненні ў галіне архітэктуры, будаўніцтва і рэстаўрацыі дазваляюць дастаткова хутка і якасна аднавіць гістарычныя кварталы і дамы. Па старых чарцяжах узноўлены Нюрнберг, Дрэздэн, Варшава, старадаўнія будынкі ў Берліне, іншых еўрапейскіх гарадах. У нас таксама шмат што адроджана. Выдатна адрэстаўраваны касцёл Панны Марыі, у Верхнім горадзе з'явілася ратуша, далікатна ўпісаўся ў гістарычную забудову гатэль «Еўропа». Рэстаўрацыйныя работы ў гэтым квартале працягваюцца.

І ажывае куток старога Мінска. Гэта, дарэчы, прыўносіць новыя фарбы ў палітру горада. Там ідзе сваё жыццё: адкрыліся ўтульныя кафэ, канцэртныя пляцоўкі, галерэі, музеі. Туды любяць наведвацца мінчукі і замежныя турысты. Бо там жыве гісторыя, прыгожая старая архітэктура. У эпоху постмадэрнізму пра гэтую акалічнасць амаль забыліся. Лічылася, што ўсё павінна быць новае. Але час паказаў памылковасць такіх поглядаў, бо менавіта гісторыя напаўняе архітэктуру зместам. Такая спроба зроблена ў Мінску. Але ж шмат чаго яшчэ трэба здзейсніць.

**— Нядаўна ў Мінск прыязджалі міжнародныя эксперты, якіх цікавіў праспект Незалежнасці. Ці ёсць у яго шанс нароўні з цэнтральнымі вуліцамі Берліна, Варшавы, Кіева быць уключаным у спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА?**

— Мінскі праспект Незалежнасці — унікальная ў еўрапейскай архітэктурнай практыцы забудова цэнтральнай магістралі. Яго архітэктары былі натхнёныя старажытнай забудовай цэнтра Санкт-Пецярбурга, архітэктурай Старажытнай Грэцыі і Рыма, італьянскага Рэнесансу і імкнуліся збудаваць новы горад мары, своеасаблівы «горад сонца». Я нарадзіўся ў Мінску і памятаю, як яго будавалі. Гэта быў сапраўдны цуд! Праспект Незалежнасці — дасягненне савецкай архітэктуры і ўяўляе сабой арганічны цэласны ансамбль, пабудаваны па адзінай задуме знакамітымі рускімі і беларускімі архітэктарамі.

Вядома, праспект трэба захоўваць, рэстаўраваць яго гістарычную забудову. Паводле першых генпланаў, ён павінен быў ісці да цяперашняй Нацыянальнай бібліятэкі і заканчвацца ўрачыстай плошчай. Увогуле, праспект Незалежнасці задумваўся для ўрачыстых шэсцяў. Унутраная яго прастора — пампезная, святочная, велічная. І абстаўлена як прафесійна выкананая дэкарацыя будучага багацця, шчаслівага і заможнага жыцця. Гэтая прастора ўдалая па сваіх памерах, таму прыцягвае ўвагу. Такая архітэктура ў нейкай ступені ўзвышае чалавека. Несумненна, праспект — візітная картка Мінска, Беларусі.

**— Чые архітэктурныя праекты савецкага перыяду вы б адзначылі?**

— Кажучы пра нашу сталіцу, нельга не ўзгадаць дойліда з вялікай літары Іосіфа Лангбарда, ураджэнца польскага горада Бельск-Падляшскага. Менавіта ў Мінску расквітнела яго творчасць. Ён стварыў цудоўныя будынкі ў стылі мадэрнізму, манументальнага канструктывізму, выдатныя мастацкія ансамблі: Дом афіцэраў, рэзідэнцыя прэзідэнта, прэзідыум Акадэміі навук, тэатр оперы і балета, Дом ураду. Таксама ўдалая пабудова ў стылі канструктывізму — былая «Ленінка», якая належыць архітэктару Георгію Лаўрову. Яскравы канструктывізм — фабрыка-кухня ў раёне плошчы Незалежнасці таго ж дойліда, будынак абсерваторыі на праспекце Незалежнасці. Усе яны ўнеслі ў аблічча горада цікавыя канструктывісцкія рысы. Варта заўважыць, што найбуйнейшым горадам Беларусі з багатай спадчынай да савецкага часу быў Віцебск. Але каток барацьбы з рэлігіяй прайшоўся па ім яшчэ мацней, чым у Мінску. Пасля вайны Віцебск страціў амаль усе свае знакамітыя саборы.

**— Што трэба зрабіць для надання Мінску, іншым старажытным гарадам большай, як некалі заўважыў дойлід Казіс Керуціс, «паціны часу»?**

— У Мінску трэба больш дакладна папрацаваць над ядром, захаваць лангбардаўскую спадчыну і папулярызаваць яе, зберагчы канструктывізм Лаўрова, пабудовы савецкай эпохі, пасёлак трактарнага завода, архітэктурны ансамбль насупраць кінастудыі «Беларусьфільм». Патрабуе ўвагі і прамысловая спадчына — будынак завода «Крышталь» і іншыя, як тое робіцца ў Даніі, Германіі, Польшчы. Напрыклад, у Кракаве піўзаводы аддаюць пад буйныя крамы, дзе на вачах наведвальнікаў вараць піва. Пры гэтым не разбураюць старую цагляную архітэктуру, захоўваюць дух таго часу.

Яшчэ нядрэнна было б паклапаціцца пра тэхнічна-прамысловую спадчыну: старыя агрэгаты, воданапорныя вежы. Гідраэлектрастанцыя ў гатычным стылі на беразе Свіслачы вельмі добра ўпісвалася ў панараму і ландшафт. Там можна было б размясціць грамадскі будынак, звязаны з паркам Горкага. У нас не заўсёды думаюць пра выгляд горада. Калі ствараецца на канкрэтным месцы нешта, што па сваіх мастацкіх якасцях і ўсім астатнім пераўзыходзіць пабудаванае раней, гэта — развіццё, гэта добра. А калі ж проста зносяць і ўзводзяць новае, то ці варта такое рабіць? Да ўсяго трэба падыходзіць вельмі тактоўна. Тое ж тычыцца іншых мясцін Беларусі. У свой час граф Румянцаў пабудаваў Гомель — ідэальны горад эпохі Асветніцтва. Спадчыне Гомеля прысвечана мая кніга. Сёння, на жаль, многае ў ім не захавалася. Страчана аўтэнтыка.

У нас іншы раз глядзяць на рэстаўрацыю спрошчана: зносяць стары будынак, бо зроблены ён са старых матэрыялаў, і ўзводзяць так званы «навабуд». Але ж рэстаўрацыя — гэта цэлая індустрыя. Тут павінны працаваць спецыяльныя будаўнікі і спецыяльныя архітэктары-рэстаўратары, мастакі, скульптары, рамеснікі… Вось яшчэ адзін прыклад. Аўтавакзал «Маскоўскі» — помнік свайго часу, і даволі яркі. За яго архітэктару далі Дзяржпрэмію. Гэта амаль адзіны ў краіне будынак, у якім былі ўжыты сучасныя вантавыя канструкцыі. І можна было яго захаваць...

На мой погляд, цікавасць выклікала б і прыцягненне ўвагі да забудовы часоў Хрушчова — савецкага мадэрнізму. Ёсць вельмі добры ансамбль на бульвары Талбухіна. Ён быў зроблены цэласна, прафесійна. Пасляваенны раён Асмолаўка, які знаходзіцца побач з оперным тэатрам, — таксама вельмі характэрны. Ён цэласна забудаваны. Тады былі папулярныя гарады-сады з сядзібнымі маленькімі двухпавярховымі дамамі. У раёне вуліцы Захарава таксама захавалася цікавая забудова. Там размяшчаецца прадстаўнічы Дом дружбы, які спраектаваў дойлід Георгій Заборскі.

**— Вернемся да старога цэнтра Мінска. Калі праводзілі трасу па Нямізе, разбурылі найцікавейшы барочны квартал. А можна было б яго захаваць, а магістраль правесці ў абыход па цяперашнім праспекце Пераможцаў, вуліцах Мельнікайтэ і Раманаўская слабада?**

— Тады для горада патрэбна была траса. У еўрапейскіх гарадах у стары цэнтр забаронена ўязджаць на транспарце. Трэба было ўжо тады ўлічваць падобныя акалічнасці. Нямігу магчыма аднавіць, як і структуру квартала з яго вузкімі вуліцамі. Можа, у будучыні знойдуцца сродкі і на яе аднаўленне, і на адраджэнне страчаных вуліц у Верхнім горадзе, і на Дамініканскі сабор, іншыя выдатныя гістарычныя будынкі сталіцы.

Траецкі квартал Мінска — вельмі цікавы старадаўні куток. А вось на месцы опернага тэатра стаяў калісьці велічны касцёл, знаходзіўся маляўніча апісаны ў творах нашых пісьменнікаў кірмаш, прыгожы Траецкі манастыр базыльянак. У 1834 годзе па праекце архітэктара Казіміра Хрышчановіча манастыр перабудавалі пад гарадскі шпіталь, таму што ўсе лекавыя ўстановы ў Еўропе таго часу адкрылі ў кляштарах. Пазней у манастырскіх сценах размясцілася 2-я гарадская клінічная бальніца. У прынцыпе, гэта месца можна і трэба было б аднавіць, адкрыць у ім карцінную галерэю, музей. У былым кляштары, між іншым, захаваліся на сценах каштоўныя старадаўнія фрэскі. Гораду варта было падумаць над рэстаўрацыяй.

У архівах ёсць чарцяжы Траецкага манастыра базыльянак. Пры рэстаўрацыі неабходна карыстацца прадуманай канцэпцыяй. Калі нарадзілася нешта цікавае ў працэсе конкурсу ідэй — добра, бо творчае спаборніцтва павышае якасць архітэктуры. Потым і фінансы знойдуцца. Чаму б на эскіз-ідэю, скажам, не вылучыць тры прэміі? Горад бы выдаткаваў невялікую суму на ганарары. Праекты б з'явіліся, а потым і інвестары знайшліся б. Манастырскія будынкі неабходна захоўваць як гісторыю. Тое ж датычыцца і драўлянай забудовы нашых гарадоў. Да яе трэба больш ашчадна ставіцца.

**— Што неабходна змяніць у падыходах да рэстаўрацыі?**

— Не вынаходзіць ровар, а ставіцца так, як ставяцца да гэтага пытання ва ўсім свеце. Каб аднавіць стары цэнтр, трэба правесці навуковыя і архітэктурныя даследаванні, абвясціць конкурс на лепшы праект, прапісаць гэта ў законе. Любы дойлід любой краіны можа ўдзельнічаць у такім спаборніцтве. Выбіраецца лепшае рашэнне. Да далейшай працы можна прыцягваць мясцовых спецыялістаў. А выдаткі могуць быць не такія ўжо і вялікія, як прынята думаць.

**— Асобная тэма — старадаўнія рынкавыя плошчы. Пакуль мы не можам пахваліцца тым, што яны адноўлены ў поўным аб'ёме.**

— Так, тут спатрэбіцца шмат папрацаваць. Многія беларускія гарады маюць патрэбу ў аднаўленні рынкавых, ратушных плошчаў. У нашым унікальным Нясвіжы, пабудаваным князямі Радзівіламі як лабірынт, сёе-тое захавалася на рынкавай плошчы. Але яна патрабуе поўнага аднаўлення. Тое ж датычыцца Навагрудка, Слоніма, Ружанаў, Паставаў, Гальшан. Нашы студэнты і іх калегі з Беластока падрыхтавалі цікавыя праекты на тэму аднаўлення і рэканструкцыі плошчаў беларускіх гарадоў. Гэтыя работы вартыя ўвагі.

Існуе праблема заказчыка. На рэстаўрацыю патрабуецца шмат фінансаў. Трэба прыцягваць спонсараў і рабіць гэта ўмела. Можна аддаць аб'ект у прыватныя рукі. Польскі прафесар Марэк Квяткоўскі, былы дырэктар каралеўскага замка «Лазенкі», узяў «на парукі» старую сядзібу. Ён жыве ў гэтай прыгажосці, захоўвае інтэр'еры, праводзіць экскурсіі. Дзяржава дапамагае яму, выдаткоўвае сродкі на ацяпленне. І будынак не гіне. Трэба шукаць разумныя рашэнні.

У нас, у Жалудку, разбураецца цудоўны палац. Можа, варта на месцах ствараць больш умоў для ініцыятывы. Кіраўнікі на ўсіх узроўнях павінны прыслухоўвацца да мудрых і прынцыповых экспертаў, як гэта адбываецца ў Польшчы. Бо не заўсёды архітэктары робяць тое, што трэба. Неабходна слухаць і чуць адзін аднаго, улічваць меркаванне грамадскасці, аўтарытэтных спецыялістаў. Такі падыход існуе ў Італіі, Даніі, Швецыі, Германіі і інш. Мусіць, трэба аднавіць, скажам, шэсць дамоў пад нумарамі 103 — 113 па праспекце Незалежнасці. Знешні выгляд, фасады неабходна захаваць. Калі існавалі цікавыя малыя формы ў дварах, то павінны быць адноўлены прыкладна ў тым выглядзе, якія мелі першапачаткова. У архівах ёсць чарцяжы. Такія дамы трэба захаваць як жыллёвыя аб'екты і стварыць для людзей неабходныя ўмовы для нармальнага жыцця — зрабіць усё прафесійна.

**Наталія НАДЗЯЕЎСКАЯ**

Пуцявіны

# Час — магілёўскі

Кожны тэкст Віктара Арцем'ева, ці гэта дакументальна-мастацкае апавяданне пра вайну, ці краязнаўчае даследаванне або ўспаміны пра шматлікія сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, падарожныя нарысы, — летапіс роднай магілёўскай старонкі. «Мае творы з жыцця і пра жыццё», — падкрэслівае Віктар Іванавіч. Днямі яму споўнілася 90 гадоў.

З Віктарам Арцем'евым мяне пазнаёміла дачка беларускага паэта Аляксея Пысіна. У творцы, аказалася, ёсць біёграф, які добра ведае падрабязнасці яго жыццёвага шляху. І акурат тыя, што выклікалі маю даследчыцкую цікавасць. Памятаю нашу першую сустрэчу ў Магілёве ўлетку 2004 года: напоўнены жыццёвым рухам, нягледзячы на гады, чалавек; яго няспешная гаворка пра сяброўства з паэтам і шмат кніг у кватэры, сярод якіх — рукапісны альбом з некалькімі дзясяткамі аўтографаў беларускіх пісьменнікаў. Адчулася: Арцем'еў з тых, хто разумее хуткаплыннасць часу і каштоўнасць кожнай (нават самай маленькай!) старонкі мінулага. «Імкнуся пісаць пра тое, што іншыя абыходзяць увагай. Занатоўваю, бо ведаю, што праз дзясяткі гадоў надрукаванае будзе запатрабавана больш, чым сёння», — прызнаецца Віктар Іванавіч.

Актыўна займацца рознымі даследаваннямі Віктар Арцем'еў пачаў у 1990-я гады, калі ўжо назапасіўся жыццёвы досвед, калі адбыліся лёсавызначальныя сустрэчы. Любоў да гісторыі роднага краю прыйшла, відаць, з дзяцінства. Віктар Іванавіч нарадзіўся на хутары Чарэйцаў круг, у маляўнічым кутку на Шклоўшчыне. Аповеды мясцовых старажылаў пра даўніну, вясковыя бываліцы засталіся ў памяці, каб праз шмат гадоў «ажыць» у зборніках краязнаўчых апавяданняў «Чарэйцаў круг», «Цячэ рэчка Бася», «Шчодрасць душы», у кнігах пра матчыну мову «Слоўцы-адмыслоўцы», «Мова родная — беларуская».

Перад вайною Віктар Іванавіч паспеў закончыць Ардацкую сямігодку. Падчас акупацыі зведаў гора, цяжкую працу і жахі перасылачнага канцлагера. Падлеткавыя ўражанні выліліся ў зборнік апавяданняў «Радзішчанскі летапіс вайны», аповесць «Выгнаннікі», кнігу нарысаў «Вайна на свае вочы».

Моцнае жаданне вучыцца прывяло юнака спачатку ў Магілёўскае культасветвучылішча, потым — у Мінскі педагагічны інстытут на бібліятэчны факультэт. Доўгі час працаваў на розных пасадах на бібліятэчнай ніве.

Асобная старонка ў жыцці творцы — сяброўства з Аляксеем Пысіным. Заўчасны сыход у нябыт любага сябра прымусіў задумацца пра ўшанаванне яго памяці. У выніку з'явіліся зборнікі «Паэт вузел завязаў», «Урокі Аляксея Пысіна», літаратурна-краязнаўчыя нарысы «Бібліятэка Аляксея Пысіна», «Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў», «Вянок Аляксею Пысіну» — падборка выказванняў літаратараў, вучоных пра мастака слова і яго літаратурную спадчыну.

Асаблівае месца ў творчасці краязнаўцы займае зборнік «Пісьменнікі і кнігі». Як пацеркі, нанізаны ў ім згадкі пра сустрэчы з Іванам Шамякіным, Іванам Чыгрынавым, Алесем Пісьмянковым, Рыгорам Барадуліным і інш. У свой час Віктар Іванавіч працаваў у магілёўскім Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР, ладзіў сустрэчы з вядомымі і маладымі творцамі, крытыкамі. Засталіся незабыўныя ўражанні, якімі шчодра дзяліўсяназіральны аўтар. Ёсць у кнізе і літаратурна-крытычныя развагі пра творчасць любімых пісьменнікаў, і арыгінальныя выступленні Віктара Іванавіча — актыўнага папулярызатара беларускай кнігі сярод сучаснай моладзі, і перапіска з Янкам Брылём, Змітраком Марозавым... Атрымаўся самабытны літаратурна-краязнаўчы летапіс Магілёўшчыны.



*Віктар Арцем'еў у Ляўках (сакавік 2009 г.).*

Віктар Іванавіч — лаўрэат прэміі імя Якуба Усікава Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Піша для шырокага кола чытачоў. Намеснік кіраўніка Магілёўскага літаратурнага аб'яднання «Ветэран», бярэ ўдзел у працы Магілёўскага гарадскога савета ветэранаў.

**Таццяна ХОМІЧ**

Бясконца чароўная Беларусь

# Веснічкі



Толькі збочыў з вялікага шляху на прасёлак, як адразу закружыў галаву водар разнастайных траў і непаўторны пах зялёнай збажыны. У лагчыне, амаль нябачны ў густым лазняку, ціха бяжыць ручай. Некалькі вялізных камянёў побач з дарогай як быццам хочуць ускараскацца на яе і пакаціцца побач з табой. Але не! Іх справа — ляжаць тут і пільна вартаваць усё наваколле ад кепскага і чужога. Так кажа мясцовая легенда. А птушак! Адкуль яны? Быццам раней і не было столькі. Не, мабыць, ты проста раней не заўважаў іх, успрымаў як дадзенае.

Ідзеш лёгка, нават хочацца трохі падбегчы — але дзе там. Ты ж ужо не хлапчукпадлетак, а сталы, дарослы. Ты ж едзеш з горада, у капелюшы і са скураным партфелем у руках. Людзі з вёскі ўбачыць могуць, табе ж гэта здаецца недарэчным... Так хочацца хутчэй дабегчы да самой вёсачкі, да вуліцы, ды з-за павароту ўбачыць спачатку дамы суседзяў, а там!.. А там, у садзе, прытуліўшыся да вялізных кустоў бэзу і язміну, хата тваіх бацькоў! З боку вуліцы — доўгая лаўка, а побач з ёй — веснічкі!

О, гэтыя веснічкі! Колькі разоў ты праходзіў праз іх! Не трэба нават шукаць, дзе схавалася тая самая клямачка. Да яе трэба дакрануцца, а яна быццам толькі таго і чакала, толькі гэтага — ледзь прыкметнага дотыку тваёй далоні — ёй дастаткова. І вось, з нейкім незвычайным, толькі ім уласцівым гукам — ціхім шоргатам і рыпеннем — веснічкі адчыніліся так шырока, як толькі маглі. Бо ішоў ты! Той, якога веснічкі памяталі з маленства! З самага пачатку, з таго імгнення, калі цябе, захутанага ў вялізную коўдру, зняла з саней з разваламі матулька твая, пранесла праз іх ды хутчэй у хату, у цяпло да печы, да шырокага ложка, да пахаў і гукаў гэтага жытла.

Яны адчыняліся рукой тваіх бацькоў, калі ты ўпершыню выйшаў, так нясмела і нават смешна, на шурпаты брук вуліцы, зусім на трошачкі, — а потым ізноў у двор, дзе болей бяспечна, дзе пільныя вочы маці і бацькі. А як песціла цябе бабулька, якая лічыла, што толькі яна ведае, як і што з табой трэба рабіць: як вучыць, як пільнаваць, гушкаць, чым карміць. Як ты сам у першы раз дацягнуўся да клямкі і самастойна адчыніў гэтыя веснічкі. Раней вуліца бурліла: кудысьці спяшаліся дарослыя, дзеці імчалі на роварах. А вазы з коньмі, каровы з цялятамі. Не тое, што цяпер…

Прайшоў амаль праз усю вуліцу, а павітаўся толькі з адной старэнькай бабулькай, мабыць, цёткай Нінай, якая цябе і не пазнала. Ты ж болей не той хлапчук, які за свавольства атрымліваў па карку, — ты ўжо сам можаш каму заўгодна надаваць.

І вось, нарэшце, хата тваіх бацькоў! Усё такое звыклае: клямка, ціхі гук завесаў — і ты ў двары… Насустрач першая заўсёды матулька. Смяецца і плача адначасова. Так заўсёды… Рукі раскінула шырока-шырока — хутчэй цябе абняць. І пастаяць моўчкі, ціха-ціха. І часу не адчуваеш — толькі пах яе хустачкі, колер яе валасоў. А бацька побач цярпліва чакае, пакуль ты з матулінага палону зможаш трапіць у яго абдымкі — моцныя і кароткія. Бярэ з тваіх рук партфель і ціха кажа: «Хадзем, ну хадзем ужо ў хату. Годзе час тут марнаваць, там жа — ой, там жа ежа з печы стыне!».

А ззаду непрыкметна, ціхенька вяртаюцца на свае звычайныя месца веснічкі. Зачыняюцца, каб, як тыя камяні каля дарогі, стаяць на варце гаспадаркі, двара і хаты, куды вы ўтрох толькі што зайшлі. Усім добра і да слёз прыемна, што ты прыехаў. Цяпер мы ўсе разам — з любімымі бацькамі. З садам, калодзежам, плотам, кветкамі, веснічкамі, якія пра сябе ціхенька ганарацца, што сустрэлі цябе першымі.

**Уладзімір ЦВІРКА, фота аўтара**

Цікава ведаць

# Запрашае «Гасцінія»!

Нацыянальная кухня Беларусі фарміравалася стагоддзямі. У аснове кулінарных традыцый беларусаў — народныя рэцэпты, выкарыстанне пераважна мясцовых прадуктаў. На шчасце, шматлікія старадаўнія рэцэпты захаваліся да нашых дзён. Цікавасць да іх расце, асабліва сярод гасцей нашай краіны. Аб'яднаць назапашаную каштоўную інфармацыю — такую адказнасць узяў на сябе новы амбіцыйны праект — кулінарны сайт «Гасцінія».

— *Gastinia.by* — сайт, створаны Беларускім грамадскім аб'яднаннем «Адпачынак у вёсцы» і студэнтамі факультэта міжнародных адносін Белдзяржуніверсітэта, — распавяла старшыня праўлення БГА «Адпачынак у вёсцы» і кіраўнік праекта Валерыя Кліцунова. — Асновай для яго з'яўлення сталася кулінарная карта, якую падтрымалі многія беларусы на платформе *Ulej.by* і на добраахвотнай аснове выступілі яе фундатарамі. Задача праекта *Gastinia.by* — зламаць стэрэатып «Беларусь — гэта драніклэнд». Наша краіна мае багатую кулінарную спадчыну, якая захавалася ў асноўным у глыбінцы, і пра гэта хочацца распавесці ўсім.

Нядаўна сайт *Gastinia.by* быў адкрыты для наведвальнікаў. Партал знаёміць з вялікай колькасцю страў, рэцэптаў і гісторыяй іх стварэння. Тут можна знайсці інфармацыю пра гастранамічныя маршруты і фэсты, якія ладзяцца ў Беларусі. Цікавым і пазнавальным стане для гасцей сайта раздзел пра стравы, рэцэпты якіх, на жаль, згубіліся.

Цяпер не трэба марнаваць час на пошукі месца, дзе можна пакаштаваць сапраўдную беларускую кухню. На сайце ёсць інтэрактыўная карта, таму можна знайсці інфармацыю пра аграсядзібы, кожная з якіх прапануе смачную беларускую ежу. *Gastinia.by* таксама ўключае каталог аграсядзіб з усімі каардынатамі.

— Каб было лягчэй арыентавацца, мы звязалі каталог аграсядзіб са спісам рэцэптаў, — заўважае Валерыя Кліцунова. — Кулінарны сайт «Гасцінія» — сапраўдны народны праект. Нашу карту мы імкнуліся зрабіць як мага больш набліжанай да традыцый. Яна ўтрымлівае не толькі рэцэпты, але і імёны людзей, якія ўсё гэта ўмеюць гатаваць і з радасцю пачастуюць вас. А як інакш навучыцца рыхтаваць страву, калі ніколі яе не каштаваў? У нашых планах — стварыць мабільны дадатак з рэцэптамі, якіх ужо больш як 200. Спадзяёмся, што карта будзе цікавая не толькі жыхарам Беларусі, але і турыстам: для многіх з іх ежа — таксама стымул для наведвання іншай краіны. У вёсцы кумпяк не горшы за хамон, клёцкі з «душамі» не горшыя за цапяліны, а хатняя гарэлка лепшая, чым "Абсалют"! Смакуйце!

Пакуль сайт *Gastinia.by* працуе ў тэставым рэжыме і чакае водгукаў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# З чыстымі думкамі

## Раскрыць міф пра Нямігу і парушыць стэрэатыпы пра беспрытульных


Алена Шлегель «Ачышчэнне вадою».

Калектыўныя арт-праекты ў айчыннай мастацкай прасторы становяцца своеасаблівым трэндам. Мастакі знаходзяць актуальныя тэмы, разважаюць пра іх у работах, аналізуюць пытанні, якія паўстаюць у грамадстве. Напрыклад, нядаўна ў Мінску праходзілі праекты, прысвечаныя гендарнай тэматыцы, сацыяльнай бяспецы грамадства, бяздомным жывёлам. Цяпер у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3) дэманструецца грунтоўны праект-даследаванне «Чысціня і гігіена». Назва адразу схіляе да думак, што выстаўка накіравана на абмеркаванне экалагічных пытанняў, але арганізатары разгледзелі яе больш шырока, з пункту гледжання найперш чысціні духоўнай.

У праекце ўзялі ўдзел адзінаццаць знакамітых беларускай публіцы мастачак, сярод якіх Зоя Луцэвіч, Жанна Капуснікава, Ілона Касабука, Таццяна Радзівілка, Алена Толабава, Алена Шлегель, Вольга Сазыкіна… Аўтары вельмі сур'ёзна паставіліся да рэалізацыі канцэпцыі. У экспазіцыі вы не знойдзеце выпадковых твораў, кожная дэталь экспанатаў абдуманая і аргументаваная. Выстаўка ўяўляе своеасаблівую самапрэзентацыю мастачак, дзе кожная з удзельніц акцэнтуе ўвагу на ўласных каштоўнасных арыенцірах.

Першая зала, куды трапляе глядач, выглядае даволі эфектна. Тут прадстаўлены творы мастачкі Кацярыны Сумаравай, якая аб'яднала жывапісныя творы з крэатыўнымі арт-аб'ектамі — слоікамі з вадой з розных рэчак і азёр Беларусі.

— За аснову я ўзяла адну з галоўных стыхій — ваду, бо яе можна разумець па-рознаму: можна ў кантэксце хімічнай формулы $H_2O$, а можна — як носьбіт энергіі, чалавечай памяці, — распавядае Кацярына Сумарава. — Такім чынам, глядач сутыкаецца адначасова з экалагічным і духоўным аспектамі. Мне вельмі хацелася зрабіць сімбіёз жывапісу і арт-аб'ектаў. Мая жывапісная частка — палотны, дзе я ў сутворчасці з вадой даю ёй магчымасць змешвацца, сцікаць з палотнаў. А арт-аб'ект — гэта мая калекцыя вады з Беларусі. Гэта асноўная палітра нашых водных рэсурсаў, рэзерваў. Але рэзервы я разглядаю не толькі як стратэгічны, эканамічны ці экалагічны фактар, для мяне ўсё ж такі гэта памяць, паэзія, музыка, натхненне… Кожны, хто падыходзіць да сваёй рэчкі дзяцінства, юнацтва, сталасці, зможа ўспомніць пра нешта роднае, блізкае. Ваду я збірала на працягу апошніх дзесяці дзён, мне перадавалі яе праз трэція, нават чацвёртыя рукі. Вельмі важна было знайсці раку Нямігу. Дажыўшы да сённяшніх дзён, я ўсё ж такі раскрыла гэты міф: на жаль, ракі Нямігі больш няма. Яе проста не існуе, яна сышла даўно. А ў калектары на Нямізе проста талая і дажджавая вада, таму слоік з подпісам Няміга пакінуты пустым.

Некаторыя аўтары лічаць духоўнай чысцінёй свабоду ад абмежаванняў, грамадскіх стэрэатыпаў, звычак і правіл.


Марта Шматава «Валодзя», 2017 г.

Так, мастачка Марта Шматава вельмі цікава акрэсліла ўласны пункт гледжання: свае творы аўтар прысвяціла беспрытульным. Герояў знаходзіла выпадкова: падыходзіла на вуліцы і пачынала ненадакучлівую размову, падчас якой пытала пра дзяцінства, самыя шчаслівыя моманты жыцця. Мастачка кажа, што гэтыя людзі кранаюць бездапаможнасцю і несапсаванасцю працэсамі цывілізацыі, яны абсалютна інакш успрымаюць наваколле, пахі, музыку…

— Прадмет майго даследавання — частка дэвіянтнай групы, якая асацыюецца якраз з адсутнасцю чысціні і гігіены, — людзі без пэўнага месца жыхарства, — адзначае Марта Шматава. — У кожнага з іх было дзяцінства — перыяд, які з'яўляецца самым чыстым, непаўторным. Некаторыя з маіх герояў і сёння нагадваюць дзяцей: кранальныя ў сваёй бездапаможнасці, наіўнасці. Іншыя — далёкія ад наіўнасці, з адбіткам няпростага лёсу, але таксама ў стане безвыходнасці. Мой прыём — сумяшчэнне несумяшчальнага, стварэнне новага кантэксту праз аб'яднанне кантэкстаў, якія не перакрыжоўваюцца ў свядомасці. Такім чынам, мой праект адносіцца да сацыяльнага мастацтва, аб'ядноўвае разнародавыя і несумяшчальныя эстэтычныя феномены: традыцыйную форму, актуальны змест і лірызм.

А вось для мастачкі Галіны Раманавай чысціня заключаецца ў пазбаўленні ад мінулага, сумнага, ад таго, што калісьці, можа, і забываецца, а пасля нарастае як снежны ком у душы і не дае магчымасці спакойна дыхаць і жыць. Аўтар перакананая: для мастака эквівалент памяці — творчасць, у якой можна пакідаць думкі і вяртацца толькі ў момант моцнай патрэбы. Праз сваю творчасць Галіна Раманава шукае адказы на пытанні, наколькі запатрабаваныя мастак і мастацтва ў сучасным свеце і ці патрэбна нашаму грамадству творчая чысціня.

Вельмі захапляе мастацкая частка праекта, падрыхтаваная Таццянай Кандрацёнка. Яна разважае над пытаннямі доксы — агульнапрынятымі меркаваннямі ды клішэ. Мастачка раскрывае тэму не праз творы, а праз таннае мыла, набытае спецыяльна ў «Еўраопце». Пад усімі кавалкамі змешчана тлумачэнне, што такое кожная з васьмі прадэманстраваных доксаў. Аўтар стварыла своеасаблівае навуковае даследаванне: падзяліла мыла на спажывецкае, бюракратычнае, гендарнае, рэлігійнае, школьнае…. Кожны кавалачак адзначаны сваім сэнсавым колерам. Дастаткова дыялагічная атрымалася пляцоўка, дзе кожны чалавек можа альбо прыняць, альбо адмовіцца ад прадстаўленых аргументаў. Але ж мыла — прамая метафара ачышчэння.

Праект можна лічыць удалым ужо толькі таму, што кожны дзень ён збірае вялікую колькасць гледачоў. Жаночы погляд на душэўную чысціню моцна кранае: нельга казаць пра ілюстрацыю і раскрыццё літаральнага сэнсу паняцця «гігіена», тут хутчэй адбываецца пошук першаснага, ідэальнага, незамутненага і незасмечанага вобраза. Каштоўнасць выстаўкі ў тым, што праект кожнай мастачкі размешчаны ў асобным пакоі. Калі ты трапляеш з адной залы ў іншую, адчуваеш, як фарміруецца ўласнае меркаванне, знаходзіш для сябе дэталі, якія могуць надалей стаць прынцыпамі жыцця. Мастачкі запрашаюць аматараў канцэптуальнай творчасці і прымаюць не толькі падзякі, але і крытыку, без якой, безумоўна, развіццё мастацтва немагчымае.

**Вікторыя АСКЕРА**

# ПА ДРАБНІЦАХ

## Без падзелу на правінцыю і сталіцу

У кожным куточку Беларусі ёсць свае славутасці і адметнасці, але часам ім не хапае ўвагі, акцэнту, своеасаблівай аправы, якая падкрэсліла б вартасці. Так разважаў мастацтвазнаўца Яўген Шунейка, калі вырашыў прадставіць у Мар'інай Горцы свой мастацкі праект «Ад Залатой Горкі да Мар'інай Горкі».

— Я ўжо восьмы год супрацоўнічаю з краязнаўчым музеем, працую з дзеткамі, што вучацца ў школе мастацтваў, арганізоўваю выстаўкі, — гаворыць Яўген Шунейка, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў. — Гэтая выстаўка з накідаў, нататнікаў падарожжаў. Работы прысвечаныя Мар'інай Горцы, тым яе кропачкам, дзе ёсць пэўная гісторыя культуры, якія ўтрымліваюць асаблівую атмасферу, звязаную ці то са славутым мастаком Генрыхам Вейсенгофам, ці то з нашымі сучаснікамі, такімі, як Ігар Лучанок. Для мяне важна, што маленькі горад, а ёсць у ім свой культурны асяродак.

Невыпадкова, што напачатку XX стагоддзя ў гэтыя мясціны, на радзіму маці, прыехаў вядомы мастак, прадстаўнік піцерскай школы Генрых Вейсенгоф. Тут ён працаваў 13 гадоў як мастак, калекцыянер, збіральнік беларускіх каштоўнасцей. Яўген Шунейка даўно хацеў прыцягнуць увагу да яго творчасці. Таму твор «Генрых Вейсенгоф на зімовых эцюдах у Русаковічах» скіроўвае да вядомага пейзажа «Зіма». Некалі Вейсенгоф атрымаў на выстаўцы ў Парыжы Гран-пры за зімовыя краявіды з празрыстым снегам. Парыжскі поспех мастака не ўтрымаў, ён вярнуўся на радзіму. Яўген Шунейка вырашыў пастэллю намаляваць дыван, каб перадаць асаблівасць творчасці майстра на падставе матыву самога ж Вейсенгофа.

Пасля дэманстрацыі ў Мар'інай Горцы выстаўку маюць намер правесці па раёне. А ў маі аўтар спадзяецца на працяг у выглядзе адмысловага праекта, прысвечанага Генрыху Вейсенгофу. Да працы могуць далучыцца іншыя мастакі.

— Я не столькі мастак, колькі педагог і мастацкі крытык. Але я запаўняю вакуум, — прызнаецца Яўген Шунейка. — Нашы веды па гісторыі на месцы не стаяць. Мастацтва павінна абуджаць грамадства, паказваць, як яно развівалася гістарычна. Як крытык я спрабую актуалізаваць гэтую праблематыку. Гэта выстаўка павінна ў раёне ажывіць цікавасць да мастака Вейсенгофа. Для мастакоў гэта асоба выключная, як і Рушчыц. Прапаганда яго творчасці відавочная, таму што ёсць што паказаць. І для Пухавіцкага раёна важна, каб былі дыялогі творцаў з публікай. Я бачу ўражанне людзей, якія мала далучаныя да нашай гісторыі культуры: школьнікі, простыя мясцовыя жыхары прагнуць адкрыццяў. Ведаю, з якім імпэтам некалькі гадоў мастакі з Піцера і Масквы едуць у Пружаны і праводзяць там пленер памяці Станіслава Жукоўскага і як іх цудоўна там прымаюць людзі, як чула рэагуюць на іх працу. Насамрэч гэта натуральна, таму што культура ў былыя часы не была сканцэнтраваная толькі ў сталіцы. Яна была размеркаваная па маёнтках, шляхецкіх сядзібах, мястэчках. І цяпер трэба падтрымліваць жыццё мястэчак — у нейкім сэнсе мы вяртаем драбніцы арыстакратычных традыцый, якія могуць сілкаваць культуру сучаснасці.


Падчас адкрыцця выстаўкі.

**Марыя АСІПЕНКА**

# У ЦЕМРЫ ЖАДАННЯЎ

**Новы спектакль Саўлюса Варнаса прадэманстравалі на нестандартнай пляцоўцы — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Услед за «Крэйцаравай санатай» (паводле Талстога) «Смех у цемры» (паводле Набокава) працягвае даследаваць повязі шлюбу, а таксама звяртаецца да вытокаў палкасці і, як вынік, здрады, да якой вядуць неўтаймаваныя жаданні.**

Проза Уладзіміра Набокава — адмысловы гімн пачуццёвасці, «Песня песняў» XX стагоддзя. Літаратурная аснова спектакля, раман «Камера абскура», вельмі падобны да знакамітай «Лаліты», але абраны твор больш жорсткі, дынамічны і ў выніку трагічны. Каб зрабіць годны сцэнічны варыянт рамана, рэжысёр-пастаноўшчык узяў на сябе абавязкі сцэнографа, мастака па святле, а таксама ажыццявіў падбор музыкі. Сцэнічная прастора звярнулася да назвы «Камера абскура» літаральна: здавалася, што галоўны герой знаходзіцца ўнутры сапраўднага прыстасавання для стварэння фотаздымкаў. Атрымалася гіганцкая камера-абскура: дэкарацыі-сценкі па баках, велізарны белы экран у цэнтры, а насупраць яго, там, адкуль на постаць аб'екта-акцёра павінна падаць святло, сядзяць гледачы. Пад позіркамі засяроджанай аўдыторыі пацыху праяўляецца вывава галоўнага героя…

Праца акцёра ў такім выпадку разглядаецца быццам праз павелічальнае шкло. Глядач заўважыць любую памылку, імгненне фальшу разбурыць крохкую атмасферу даверу. Ускладняе справу і абраны жанр монаспектакля. Акцёр у монаспектаклі застаецца сам-насам з гледачом, уся ўвага аўдыторыі ад пачатку і да канца пастаноўкі засяроджана толькі на ім. Іван Трус, знаёмы мінчанам як выканаўца галоўнай ролі ў «Крэйцаравай санаце», жыва і натуральна ўвасобіў персанаж Бруна Крэчмара. Пошукі кантакту з аўдыторыяй пачаліся яшчэ да прэм'еры: Іван Трус у сваім сцэнічным вобразе хадзіў па зале, нешта мармытаў, пільна ўглядаўся ў вочы здзіўленых гледачоў.

Спектакль можна раскласці на некалькі планаў. У аснове — лірычны аповед Бруна Крэчмара. Падзеі з яго жыцця разгортваюцца бы старонкі рамана. Перад гледачом няма вернай жонкі Анелізы, спакусніцы Магды, вераломнага мастака Горна. Але ўсе астатнія ўдзельнікі гісторыі ўвасоблены ў самім Бруна, падаюцца праз прызму яго ўяўленняў, а таму жывуць разам з ім на сцэне. Тут прэпарыруюцца пачуцці ды ўчынкі персанажа, агаляюцца матывы галоўнага героя. Яны павінны выклікаць адпаведную рэакцыю з боку назіральнікаў, і акцёр сам выносіць прысуд грамадскасці праз гучныя абвінавачванні, што знайшліся ў каментарах да кнігі «Камера абскура» ў інтэрнэт-прасторы. Ён пыхліва, узнёсла дэкламуе бязлітасныя меркаванні чытачоў, але… Раптам знікае прамое святло, скіраванае на сцэну, герой выходзіць за межы дэкарацый і пачынае ціха, пранікнёна размаўляць з гледачамі, якія ў гэты момант і не гледачы ўвогуле, а людзі — такія ж, як ён сам, са сваімі пачуццямі, памылкамі і гісторыямі. У зале ўсталёўваецца інтымная атмасфера асабістай размовы, дзеля якой, напэўна, і хочацца хадзіць у тэатр. Кожнаму тэатральнаму герою трэба выказацца і быць пачутым, сустрэць звычайнае чалавечае спачуванне пасля суровага аўтарскага прысуду ды гнеўных каментароў.

Каханне ў спектаклі «Смех у цемры» — не святло, а смех, здзек лёсу над слабым чалавекам, ахопленым балючай палкасцю. Бруна Крэчмар стаў сляпым не тады, калі патрапіў у аварыю, а значна раней. Калі дзеля Магды забыўся на прынцыпы, на гонар, на сям'ю, на ўсё ўласнае жыццё… Пасля вялікага гора, што напаткала сям'ю Крэчмара, ён думае над тым, каб вярнуцца да жонкі, па каменьчыках складвае вежу адкуплення. Новы выбух палкасці разбурае гэтую далікатную спробу жыць сумленна. Але ці можна абвінавачваць сляпога ў тым, што ён не бачыць шлях да святла?


Фота Дар'і Лабанавай.

Акцёр Іван Трус падчас спектакля «Смех у цемры».

Спектакль пацыху ператвараецца ў даследаванне. Вінаваты Бруна Крэчмар ці не вінаваты? Адказ на пытанне залежыць ад таго, ці здольныя людзі ўвогуле кантраляваць сваё жыццё, уладарыць пачуццямі. Напрыканцы спектакля гучаць словы пра тое, што Бруна Крэчмар павінен быць пакараны, але ж Набокаў вынёс свайму герою занадта суровае пакаранне.

На думку Саўлюса Варнаса, «Камера абскура» — адзін з самых зачаравальных раманаў Уладзіміра Набокава. Раней рэжысёр хацеў паставіць на сцэне «Лаліту», але актрыса захварэла, пастаноўка адклалася, а потым увогуле не адбылася. Калі пачалося супрацоўніцтва з Іванам Трусам, спадар Варнас вырашыў зноў звярнуцца да набокаўскай тэмы. Рэжысёр «Смеху ў цемры» кажа, што спачувае галоўнаму герою: усе людзі часам памыляюцца і падпадаюць пад уладу захапленняў, а потым вымушаны адказваць за свае памылкі.

— Так, усё ішло да трагічнай развязкі, бо ёсць у жыцці нешта такое, праз што нельга пераступаць, — падзяліўся думкамі рэжысёр Саўлюс Варнас. — Кожны шлюб невыпадковы, і калі мы яго разбураем, лёс як быццам кажа: дарэмна. Жорстка ці занадта жорстка? Не нам судзіць.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Акцёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра Іван Трус:**

— Прэм'ера спектакля прайшла на вялікай сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Спачатку «Смех у цемры» паставілі класічна: акцёр на сцэне, гледачы — у глядацкай зале. Адразу пасля прэм'еры рэжысёр перанёс на сцэну і дзеянне, і гледачоў, каб стварыць таямнічую атмасферу асабістай размовы, дзе адзін распавядае гісторыю, а ўсе астатнія яго слухаюць. Спектакль толькі выйграў, калі стаў больш мініяцюрным. Можна сказаць, што я знаходжуся ў «секце» свайго рэжысёра: цалкам яму давяраю, згаджаюся практычна з усім, раблю так, як скажа настаўнік.

**— Вы выходзіце ў залу і пачынаеце ўзаемадзейнічаць з гледачамі яшчэ да спектакля. Людзі адразу разумеюць, што перад імі акцёр?**

— Не заўсёды. Людзі прыходзяць у тэатр і да пачатку спектакля нічога не чакаюць, а потым бачаць, што дзеянне ўжо ідзе. Праз нейкі кароткі час (хацелася б, каб гэта было даўжэй!), дзякуючы кацялку, тросці, фраку ды пільным поглядам, глядач разумее, што перад ім акцёр. Вельмі цікава назіраць за чалавекам, які стараецца ўсім сваім выглядам паказаць: «Я ведаю: ты акцёр!» — і раптам зноў пачынае сумнявацца.

**— Калі параўнаць працу на вялікай сцэне і ў інтымнай абстаноўцы камернага спектакля, у чым выяўляюцца асаблівасці апошняга?**

— У любым выпадку кантакт з аўдыторыяй альбо ёсць, альбо няма. У «Смеху ў цемры» ўзнікае шчыльная сувязь паміж мной і гледачом. Калі правесці паралель паміж ігрой акцёра з ігрой на музычным інструменце, тут я магу браць высокія ноты, і ўсё дзеянне атрымлівае асаблівы драйв.

**Гутарыла Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Тыдзень «маладзёжнай» крытыкі

**Нядаўна Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр прымаў тэатразнаўцаў і тэатральных крытыкаў з Расіі і Беларусі, якія на працягу тыдня глядзелі прапанаваныя спектаклі і абмяркоўвалі ўбачанае.**

Апошнім часам у Маладзёжным некалькі дзясяткаў новых рэжысёраў, пад дзясятак прэм'ер за год, частыя гастролі ў Расію і Прыбалтыку, свабода ад страху ў эксперыментах. Аднак ці ўсё гэта апраўдана?

— Мы вырашылі зрабіць тыдзень крытыкі, — тлумачыць дырэктар БДМТ Віктар Старавойтаў. — Нам важна ведаць дакладна, куды тэатр рухаецца. Мы заўсёды ў творчым працэсе, таму вельмі патрэбны погляд збоку.

Асэнсоўваць недахопы і вызначаць моцныя бакі дапамагалі расійскія тэатральныя крытыкі Наталля Старасельская, Алена Глебава, беларускія — Таццяна Арлова і Людміла Грамыка. За 7 дзён крытыкі паглядзелі 8 прадстаўленых спектакляў Маладзёжнага тэатра.

Шэкспіраўскі «Сон у летнюю ноч» у інтэрпрэтацыі Іскандэра Сакаева выклікаў неразуменне рэжысёрскіх задач і прыёмаў. Наталля Старасельская казала пра бессэнсоўнасць спектакля і недарэчнасць біямеханікі Меерхольда, якая выкарыстоўваецца ва ўсіх спектаклях Сакаева. Аднак Людміла Грамыка падтрымала спектакль Сакаева: рэжысёр дасягае эфектнага адзінства формы і зместу, а такія практыкі надзвычай карысныя для акцёраў.

Спектакль Міхаіла Ягорава «Аркестр» аднагалосна выклікаў рэзкае непрыманне. Закранулі ўсе моманты: ад дэкарацый і прасторы (малая зала) да выстройвання мізансцэн. Але тэатразнаўцы адзначылі, што акцёры тут працуюць настолькі чэсна, што хочацца, каб яны ўсё ж такі адышлі ад першачарговай рэжысёрскай задачы…

Першая рэжысёрская праца Дзмітрыя Багаслаўскага «Саша, вынесі смецце» сфарміравала роўна процілеглы погляд як у беларускіх, так і расійскіх крытыкаў. Паводле Наталлі Старасельскай, у гэтым спектаклі ёсць усё: ад правільнага выбару прасторы, якая дае больш магчымасцяў, чым вялікая сцэна, да цэлай хвалі пачуццяў, якія маюць у тэатры найвялікшую каштоўнасць. Таццяна Арлова адзначыла прастасць мовы і мастацкіх прыёмаў, якія падкупляюць гледачоў чуллівасцю і шчырасцю.

Аднак «*Dreamworks*» у пастаноўцы Багаслаўскага не выклікаў замілаванасці ні ў расійскіх крытыкаў, ні ў Таццяны Арловай. Тэатразнаўцы адзначылі абсалютную пустэчу на працягу 3-х гадзін. З гэтым не пагадзілася Людміла Грамыка, якая адзначыла актуальнасць спектакля, набліжанасць да сённяшняга часу і новы спосаб камунікацыі з гледачамі. Для яе «*Dreamworks*» стаў яшчэ адным крокам у фарміраванні новага тэатральнага асяродка.

Меркаванні падзяліліся і наконт «Кар'еры Чалясціна» ў пастаноўцы Мадэста Абрамава, і наконт «Дзяцей Ванюшына» рэжысёра Вікторыі Лугавой. Першае не прыняла Людміла Грамыка з-за надта спрошчанай перадачы рэжысёрскай задумы і празмернага тэатральнага пафасу. Другое не зацікавіла Таццяну Арлову: з самага пачатку спектакля ўсе рэжысёрскія прыёмы і сімвалы працуюць супраць драматургічнага матэрыялу. Наталля Старасельская і Алена Глебава адзначылі абодва спектаклі як тыя, на якія хочацца прыходзіць яшчэ, толькі да «Дзяцей Ванюшына» давядзецца рыхтавацца маральна.

«Саня, Ваня, з імі Рымас» быў разгледжаны Людмілай Грамыка з усёй строгасцю: недастатковая асэнсаванасць не толькі рэжысёрскай працы, але і працы мастака-пастаноўшчыка. У той жа час Наталля Старасельская і Таццяна Арлова адзначылі прастасць і лёгкасць пастаноўкі, чаго было нягроста дамагчыся пры даволі складанай тэме драматургічнага матэрыялу.

Пастаноўку Генадзя Мушперта «Дваяжэнец» адзначылі як добрую ў большай ступені за кошт моцных акцёрскіх работ, чым рэжысёрскай працы.

Беларускі крытык Людміла Грамыка адзначыла:

— Цяпер амаль усе беларускія тэатры існуюць паасобку, кожны сядзяць за сваім плотам, прынамсі, многія думаюць, што, калі тэатр ёсць, прэм'еры адбываюцца, гэта ўжо поспех. Мастацкія вынікі амаль нікога не цікавяць. Апошнім часам я з надзеяй назіраю за двума мінскімі тэатрамі — РТБД і Маладзёжным.

**Вольга СТАРАВОЙТАВА**

## ЗРАЗУМЕЛАЙ МОВАЙ

**Мінулым разам, калі праект «Кінаконг» паказваў «Падынгтана», у кінатэатры не хапала месца, вырашылі зрабіць яшчэ адзін паказ. Цяпер фільмы ў беларускай агучцы будуць з'яўляцца на вялікім экране сістэматычна: «Беларускія ўікэнды» у кінатэатры «Масква» плануецца ладзіць раз на месяц.**

Кіраўнік праекта «Кінаконг» Андрэй Кім распавёў, што пачыналася ўсё з мары: «Неяк я праходзіў каля кінатэатра і задумаўся пра тое, чаму дагэтуль фільмы не дублююцца на беларускай мове? Мне хацелася паказваць цікавыя фільмы з якаснай беларускамоўнай агучкай. Паказы, якія мы рабілі летась, праходзілі з аншлагам. У "Перамозе" не хапала месца для ўсіх ахвотных, спадзяюся, што на новай пляцоўцы месца хопіць усім».

Кампаніі *Velcom*, «Атлант Тэлекам» і праект «Кінаконг» з'ядналіся, каб зрабіць сусветнае кіно на беларускай мове даступным для кожнага: акрамя таго, што ў хуткім часе праект пашырыцца ў абласныя цэнтры і рэгіянальныя гарады, частку агучаных фільмаў размесцяць на сэрвісах «Вока» і «Інтэрактыўнае тэлебачанне». Прадстаўнікі арганізацый адзначылі, што праект «Беларускія ўікэнды» — не толькі добрая нагода, каб аб'яднацца і ўзняць тэму нацыянальнай ідэнтычнасці, але і дапамагчы айчыннаму гледачу знайсці паразуменне з роднай мовай праз кінематограф.

Андрэй Кім адразу папярэджвае, што скептычна ставіцца да беларускай агучкі няварта. Абавязкова трэба паспрабаваць паглядзець кіно па-беларуску: «Многія бацькі прыводзяць сваіх дзяцей, каб тыя пазнаёміліся з роднай мовай, бо, па іх прызнанні, стасункі з беларускай мовай у іх такія ж, як з англійскай, а гэта праблема. Дзеці пасля паказу падыходзяць вельмі ўзрушаныя і замаўляюць наступны фільм».

Такое ж стаўленне да праекта «Беларускія ўікэнды» і ў людзей, якія агучваюць фільмы. Напрыклад, акцёр Павел Харланчук таксама хоча, каб яго дзеці набліжаліся да мовы з дапамогай кіно: «Гэта мова, якую я люблю асабіста. Праект мне падабаецца тым, што мае дзеці змогуць атрымаць асалоду ад карыснага прадукту, ад скарбаў сусветнага кінематографа, якія варта ўбачыць».

Зараз у камандзе «Кінаконгу» шмат аднадумцаў. Акрамя акцёраў, тут ёсць рэдактары і перакладчыкі, валанцёры, якія дапамагаюць на паказах. Праект мае на мэце рухацца далей і пашырацца. «Беларускія ўікэнды» хочуць папрацаваць над фарматам праекта, прадстаўляць класіку кінематографа (кшталту «Форэста Гампа») і тыя шэдэўры, якія апынуліся па-за пракатам у Беларусі. Наступныя паказы адбудуцца 28 — 30 красавіка — праект працягнецца антычным фільмам «Уваскрэслы».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Іншая атмасфера

## Каардынатар беларускага фестывалю — пра бязмежнасць кароткага метра

*Cinema Perpetuum Mobile* існуе на фестывальнай мапе Беларусі ўжо 6 гадоў. З прыватнай ініцыятывы ён ператварыўся ў міжнародны фестываль з багатай замежнай і беларускай праграмай, стаў заснавальнікам праекта «Белкіналета». Сёлета *CPM* пройдзе з 5 па 9 красавіка ў культурнай прасторы «Корпус». Пра тое, чаму кароткі метр — пачатак доўгай гісторыі, «ЛіМу» распавядае каардынатар беларускай і дакументальнай праграм Ганна Ражанцова.

**— Беларуская праграма *CPM* сёлета вельмі насычаная. Што ўбачыць глядач падчас фестывалю?**

— Наш фестываль міжнародны, таму беларуская секцыя вылучана асобна, але некаторыя айчынныя стужкі трапляюць і ў міжнародную праграму. Наогул беларускіх праграм у нас дзве: першая складаецца з конкурснай і пазаконкурснай (дзе паказваюць дакументальнае і ігравое кіно; анімацыі ў гэтым годзе няма), другая — эксперыментальная, мы назвалі яе *Belaruski No Wave*. Пра апошнюю трэба сказаць асобна: мы заўважылі тэндэнцыю, што з'яўляюцца работы на скрыжаванні жанраў кшталту фота, відэа, перфомансу. То бок, нешта новае, што нельга ўключыць ні ў адну з праграм, работы, дзе і гук, і відэа раўнаважныя, ці ўзаемадзеянне жанраў стварае новыя сэнсы. У беларускім кантэксце сапраўды шмат такіх твораў, таму мы вырашылі, што цікава будзе паглядзець, як новае аўдыявізуальнае развіваецца ў Беларусі, як яно ўплывае на традыцыйныя кіназ'явы і што з гэтага атрымліваецца.



*Кадр з фільма «Музыка пад Брайлем» (рэж. В. Пятрова).*

**— Чаму вырашылі вылучыць асобную катэгорыю для эксперыментальных работ? У беларускім кінематографе такіх відэа шмат?**

— Летась на фестывалі перамагла праца Максіма Сарычава «Двухлапы сябра», у гэтым фільме выкарыстоўваліся фота і відэатэхнікі, і журы не бачыла ніякіх супярэчнасцей для ўзнагароджвання стужкі такога кшталту. Таму сёлета прапанавалі рэжысёрам дасылаць і мультымедыя-працы, бо шукаем новыя формы, якія будуць цікавыя не толькі нам, але і гледачу. Пакуль што з такімі працамі аўдыторыя амаль не знаёмыя, таму зрабіць гэта вырашылі мы: плануецца паказаць каля 10 такіх нестандартных стужак, сярод іх — і некалькі кліпаў беларускіх выканаўцаў, фільмы з *Youtube*-культуры, відэаблогінгу, мультымедыйныя працы фатографаў. Гэта вельмі моцныя напрамкі, якія не могуць не ўплываць на кінаіндустрыю.

**— Сёння існуе шмат спрэчак вакол адасаблення беларускай праграмы ад міжнароднай на многіх кінафестывалях. Чаму гэта стала неабходным?**

— У нас няма пазіцыі адасаблення беларускага кіно, быццам яно горшае, чым замежнае. Мы спрабуем, каб праграма CPM глядзелася суцэльнай. У нашай агульнай міжнароднай праграме таксама ёсць беларускія стужкі. Калі мы бачым, што айчынныя фільмы глядзяцца арганічна ў міжнароднай праграме, то гатовыя іх туды ўключаць. Такая сітуацыя ўжо была, напрыклад, з фільмам Віктара Красоўскага «Вартаўнік» (увайшоў у ігравую праграму ў 2015 годзе) ці анімацыяй «Фокус» Марыі Матусевіч, а сёлета — з «Татам» Нэлы Васілеўскай (будзе паказаны ў дакументальнай праграме). Наша жаданне ў тым, каб беларускага кіно было як мага больш, менавіта таму і ёсць асобная праграма.

**— На што ў першую чаргу звяртаецца ўвага падчас выбару фільмаў у беларускую праграму?**

— Канечне, на адбор фільмаў уплываюць і нашыя густы. Ёсць такі момант, што, калі будзе дзве стужкі, з якіх трэба выбраць адну, мы б выбралі тую, дзе горшая карцінка, але больш сэнсу. Гэта пазіцыя нашага фестывалю, якая, дарэчы, блізкая і многім гледачам. Што да іншых крытэрыяў, мы шукаем новыя кіна- і аўдыявізуальныя формы і хочам паказваць кіно на сацыяльныя, кранальныя тэмы, бо верым, што з дапамогай кіно сапраўды можна паўплываць на вырашэнне некаторых праблем. Мы спрабуем выбіраць фільмы, якія будуць не толькі забаўляць гледача, але і даваць нагоды для роздуму.

**— Сёлета фестывалю будзе ўжо 6 гадоў. За досыць працяглую гісторыю ці змяніўся ён па колькасных, якасных, іменных паказчыках?**

— Беларускія стужкі ўдзельнічалі ў *CPM* з самага пачатку яго існавання, і, безумоўна, колькасць рэжысёраў павялічылася. Штогод мы атрымліваем каля 40 — 50 заявак ад айчынных кінематаграфістаў, некаторых запрашаем да ўдзелу самі. Напрыклад, тыя ж студэнты не заўсёды адчуваюць, што гатовыя паказаць свае фільмы публіцы, ці не бачаць у гэтым неабходнасці. Але якасных прац хапае, з'яўляюцца і новыя імёны, пакуль не вядомыя нават для кінасупольнасці. Нашы рэжысёры самаарганізуюцца, пачынаюць кааперавацца адзін з адным. Вельмі радуе, што яны цікавяцца не толькі працамі калег, але і фестывальным рухам, правяраюць сябе на трываласць. У іх ужо ёсць усведамленне, што ўсё, што яны робяць, — недарэмна. Сёння ў беларускім кіно шмат самавукаў, якія шукаюць магчымасці для развіцця, павялічваюць якасць кінакарцін. Нельга казаць пра суперкінаіндустрыю, але, калі маладым дапамагаць, з гэтага абавязкова нешта атрымаецца. Варта адзначыць і той факт, што нашы аўтары ўсё больш здымаюць пра тое, што іх акаляе. Усцешна, што рэжысёры звяртаюць увагу на праблемы, якія датычацца нас, а не капіруюць амерыканскія блакбастары.

**— На мінулагоднім паказе беларускай праграмы ў кінатэатры «Перамога» было вельмі мала гледачоў.**

— Мне падаецца, пакуль што на беларускае кіно ходзяць тыя, хто і так пра яго ведаюць і цікавяцца гэтай тэмай. Калі спытаць у людзей, што апошняе яны глядзелі з айчыннага, хутчэй за ўсё, адказам будзе якая-небудзь стужка Курэйчыка. Канечне, гэта яркі прыклад актыўнага піяру. Але акрамя гэтага прадстаўніка кінаіндустрыі, аўтараў больш не памятаюць, і гэта вельмі расчароўвае. Мы нібы знаходзімся ў кокане, дзе пра айчыннае кіно ведаюць тыя, хто і так цікавіцца яго развіццём. Канечне, я спадзяюся, што сёлета беларускіх гледачоў будзе больш, мы пакажам дзве беларускія праграмы разам, у адзін вечар, каб аўдыторыя змагла максімальна ахапіць наша кіно. Важна знаёміць беларускага рэжысёра і гледача (як айчыннага, так і замежнага). Мы працуем менавіта ў гэтым кірунку, заўсёды прапаноўваем беларускія праграмы для паказу на іншых фестывалях. У снежні мы прадстаўлялі беларускую дакументальную праграму на фестывалі «Зуброўка» ў Беластоку, і прадстаўнікам аднаго з нямецкіх фестываляў спадабаўся фільм Кірыла Сынкова, які пакажуць у Германіі. Беларускае кіно цікавае для замежных фестываляў, і гэтым прасоўваннем мы таксама займаемся. Спадзяюся, што гэта павялічыць яго рэйтынг і ў нашага гледача. Думаю, мы самі павінны змагацца з комплексам «нецікавасці» да айчыннага кіно.

**— Кароткаметражнае кіно сёння вельмі недаацэненае, да яго амаль не ставяцца сур'ёзна. Выступіце ў абарону такіх стужак?**

— Ёсць такое меркаванне, што кароткаметражкі — гэта спробы, пошукі форм, першыя працы кінематаграфістаў. Насамрэч кароткі метр добры не толькі тым, што тут можна паспрабаваць сябе ў розных тэмах, але гэта і незалежнае кіно, якое можа стаць пачаткам доўгай гісторыі. Магчыма, кароткаметражкі абмяжоўваюць, але менавіта гэтыя межы могуць даць рэжысёру выхад да новых ідэй і падыходаў. У сёлетняй праграме будзе фільм «Фактура», я б не назвала яго ўзорным, але гэта кіно, дзе можна заўважыць, як малады рэжысёры шукаюць нешаблонныя падыходы да здымак, «выкручваюцца». Таму хочацца, каб глядач праяўляў большую цікавасць да беларускага кіно. Ёсць такая праблема, што дайсці фільмам да аўдыторыі замінаюць: на мінулых выхадных падобная сітуацыя здарылася з праектам «Незалежны позірк» (паказы адмянілі. — **Заўв. аўт.**), які прапаноўваў гледачу якасныя беларускія стужкі сусветнага ўзроўню. Гэта вельмі паказальная праблема, калі сам «Кінавідэапракат» не хоча паказваць добрыя айчынныя фільмы, якія ў нашай краіне ёсць. Ён не спрыяе попыту на беларускае кіно ў гледача, а гэта ж складнік паўнавартаснага пракату. Адсутнасць пракату вяртае нас на пачатковую кропку — пра беларускае кіно ведаюць мала.

**— Сёлетняя праграма *CPM* таксама багатая на вартыя айчынныя стужкі. Якія з іх дакладна павінен убачыць беларускі глядач?**

— Па-першае, я б вылучыла стужку, якая ўвайшла ў абедзве беларускія праграмы: «Кожная трэцяя» Аляксандра Васюковіча. Гэта праца на мяжы фота і відэа, прысвечаная тэме хатняга гвалту, вельмі моцная з дакументальнага пункту гледжання. Характар здымкі тут вельмі выразны: тонкая аператарская работа, і тонкая праца ў сэнсе работы з героямі. Другі фільм — «Тата» Нэлы Васілеўскай, кіно вельмі цікавае хаця б таму, што гэта першая дакументальная праца рэжысёра ігравога кіно. Гэта фільм пра родных Нэлы, і бачна, што аўтар добра папрацавала і як сцэнарыст, і як творца. І трэцяя карціна, якую абавязкова трэба ўбачыць, — «Ачаг» Арсенія Ільіных, таксама дакументальная. Гэта кіно пра мастака Аляксея Несцерава і яго навакольны і ўнутраны свет. Мяркую, невыпадкова, што ў гэтым спісе — менавіта дакументалістыка, бо яна ў Беларусі мае сваю традыцыю і шмат добрых прыкладаў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# У ПЛЫНІ СУВІБРАЦЫЙ

**Беларускія фальклорныя песні — як легенды: распавядаюць гісторыі, вучаць, папярэджваюць пра нешта ці, наадварот, супакойваюць. Яны маглі б стаць легендамі ў сучасным свеце, які ўсё больш аддаляецца ад традыцыйнай культуры. Калі б не было тых, хто не згодны і імкнецца надаць гэтым творам новае жыццё. Некаторыя рупліўцы гэтай справы таксама ўжо сталі легендамі сучаснай беларускай музычнай культуры, як гурт «Палац» і музыка Алег Хаменка, з якім мы размаўляем напярэдадні двайнога юбілею, адзначаць які збіраюцца вялікім канцэртам.**



**— Гурт «Палац» стаў адметным музычнам праектам, але паралельна развівалася гісторыя асобных музыкаў, якія складалі яго. Напрыклад, ёсць саліст гурта Алег Хаменка, але ён жа выступае і як асобны артыст…**

— Яшчэ на самым пачатку мы разумелі, што рана ці позна еднасць можа скончыцца. Прычым, з-за таго, што ў кожнага з нас можа з'явіцца свой праект. Але так павінна было быць, бо так заўсёды было, і што ж, мы будзем выключэннем?.. Цяпер можна гаварыць пра тое, што ў Юры Выдронка быў выбуховы момант — стварэнне гурта «Юр'я». Але ён працягваў працаваць у тым жа кірунку. Таксама і «Крыві». Насамрэч творчасць Тодара і «*WZ-orkiestra*», я ўпэўнены, была б зусім іншай, каб не было ў яго перыяду «Палаца». Фактычна з аднаго гурта потым вырасла чатыры гурты. А яшчэ і Юра Белякоў рабіў духавыя рэчы. Ён сам некалі напісаў духавы твор — марш, — мы яго ўвасобілі ў простым, але, на мой погляд, густоўным варыянце. У Дзімы Карабача вальс прыгожы, называецца «Фаніпальскі». У кожнага з нас ёсць асабістыя творы. Але мала проста нешта зрабіць, трэба яшчэ граматна вынесці ў публічную прастору, а тут могуць узнікнуць праблемы.

**— У публічнай прасторы прысутнасць гурта можа быць у розных формах.**

— Так, гэта любы варыянт рэалізацыі. Ці проста сацыяльная вядомасць, ці канцэртная праграма, ці альбом альбо сінгл. Ёсць шмат розных варыянтаў рэалізацыі таго, што ты зрабіў. Але гэтая рэалізацыя павінна прынесці нейкую сацыяльную вагу, вядомасць. Па сутнасці, рэалізуецца ўсё альбо дзеля таго, каб зрабіць лягчэй людзям, альбо дзеля таго, каб паўплываць на нейкую з'яву, ці дзеля таго, каб зарабіць грошы. І гэтых механізмаў выхаду ў нас нестае. Таму што нацыянальнае ў нас цяпер фактычна стала элітным. Так, на гэтым можна атрымліваць нейкія балы для сацыяльнай рэалізацыі, але толькі ў вузкім асяроддзі. А каб зарабіць грошы, каб атрымаць вялікі рынак, канешне, трэба спяваць не па-беларуску.

**— Але вы пачыналі ў той час, калі быў уздым цікавасці да нацыянальнага, яно было модным.**

— Я б так не сказаў. Пачыналі мы тады, калі гэта не было ні модным, ні запатрабаваным. Мы пачыналі тады, калі гэта было дзівам. А потым, калі раптам нейкая запатрабаванасць узнікла да чагосьці роднага, — лямпачка запалілася. І мы прыйшліся да месца ў цэлым шэрагу кірункаў. Але так заўсёды бывае: людзі доўга робяць, робяць, але потым іх уздымае нейкая хваля і выносіць на вяршыню.

**— Але каб зрабіць дзіва для іншых, спачатку трэба перажыць асабістае адкрыццё. Ці быў у цябе такі момант адкрыцця роднага?**

— Гэты момант я ўжо неаднойчы сам для сябе спрабаваў прааналізаваць і дагэтуль не знайшоў адказу.

Там столькі складнікаў, але ніводзін не можа быць вылучаны як вырашальны. Але іх сукупнасць прывяла да жадання засяродзіцца ў нейкі момант на тым, што гэта ж важна! Мала таго: гэта можа быць паспяхова. Мала таго: гэта можа быць цікава. І нават камерцыйна апраўдана, на гэтым можна зарабіць…

Бацькі ўсіх удзельнікаў нашага гурта — вельмі простыя людзі. Здабыць якасную гітару для нас тады (у 80-я гады) было перамогай над жыццём. Мы дамовіліся з дзяўчынай, якая працавала ў краме «Музыка», каб яна нам паведаміла, калі прыйдуць чэшскія гітары на продаж. Іх прыйшло некалькі штук. Яна патэлефанавала, што заўтра будуць прадаваць. Грошай не хапала, у бацькоў пазычылі. Але ў нейкі момант мы купілі сабе гітары, на якіх больш-менш іграць было можна. Хоць тая мая чэшская гітара дрэнна гучала, але на ёй можна было рэальна іграць. Можа, вось гэты момант, наогул жаданне перамагчы абставіны, але ўсё ж такі добрыя, якасныя музычныя інструменты падштурхнулі не кідаць гэта.

**— Але сваім апірышчам вы абралі народную культуру.**

— Слова «народная» я б замяніў на «нацыянальная». Я зараз упэўнены, што гэта так, а тады яно спрацавала падсвядома. Мы не любілі песні, якія спявала Зыкіна ці Кадышава. А яны тады падаваліся як народныя. Такі савецкі псеўдафолк. І не ўсе, а некаторыя песні «Песняроў» мы слухалі з рэальнай цікавасцю. Памятаю два творы з альбома «Праз усю вайну», якія былі зробленыя рэальна крута. Гэта быў еўрапейскі ўзровень. Але шэраг песень падаваўся адпрацоўкай. Такіх песень у «Песняроў» было багата, іх, дарэчы, актыўна круцілі. А гэта было «народнае», у сэнсе масавае.

Адчуванне нацыянальнага абуджалася, калі сутыкаліся з нейкімі артэфактамі (нявывезенымі, недазнішчанымі, няскрадзенымі, недарасстралянымі). Мы бачылі і разумелі: нешта гэта не ўпісваецца ў тое, пра што кажуць паўсюль. Гэтыя рэчы як магнітам цягнула даведацца: а што гэта, а чаму, адкуль? Напэўна, зараз мала хто ведае, што такое сячкарня. Механізм, каб рубіць сечку. Мы прыязджалі ў вёску, бачылі таўкач, назіралі, як секлі ахрап'е свінням. У маёй бабы калісьці стаяла сячкарня. І калі даведваешся, што гэта яшчэ за польскім часам, да вайны выкарыстоўвалі і ўжо была механізацыя працы нават на прыватным падворку, разумееш, якая гэта была гаспадарка, як жылі людзі, складваецца карцінка…

**— Карцінку, відаць, дапаўнялі песні? Бабуля ж спявала?**

— Так, памятаю песню пра Ваньку-ключніка. Гэта была модная песня недзе перад рэвалюцыяй. «Ванька-ключник, злой разлучник…» Такі гарадскі раманс. І некалькі традыцыйных песень яна спявала, я гэта бачыў падчас святаў, калі быў яшчэ зусім малы. Спеваў іншых бабуль я чуў зусім вобмаль, але яны моцна мяне ўразілі. А громка-громка!.. Як заспяваюць, то гэта быў проста шок. А потым, ужо юнаком, з песняй я сутыкнуўся, калі сталі граць вяселлі на вёсках. Па замове гасцей кожны раз трэба іграць нейкую песню. А бабулі як нешта зацягнуць, разумееш, што нічога падыграць не можаш. Не можаш падабраць ні гармонію, ні словы. А савецкае «дрынсі-брынсі» граецца на раз: можна нават ніколі не чуць песню, а па галасе акорды ставіш і лабаеш… Але гэта былі зусім іншыя спевы, што мы чулі на вясковых вяселлях, і адчуванне асаблівасці гэтай песні ўзмацнілася яшчэ больш. Потым ужо і запісы мы пачулі, і цікавіліся тым, што для сябе вызначылі выразам «беларускі блюз». Вось тут было свайго роду адкрыццё. Некаторыя ў Беларусі спяваюць у старажытнай манеры, і такое адчуванне, што я ўжо гэта чуў… Гэта здавалася падобным да афрыканскіх традыцыйных спеваў, якія мы слухалі, калі хацелі зразумець, што сабой уяўляе сапраўдны аўтэнтычны афрыканскі блюз, з якога пайшла амерыканская музыка. З гэтымі запісамі мы знаёміліся, калі вывучалі гісторыя джаза, каб зразумець, з чаго ён узнік. А потым мы слухалі сваіх вяскоўцаў і разумелі: гэта крута, нерэальнае адчуванне…

**— Беларускі космас?**

— …І афрыканская культура — таксама космас. Мне здаецца, што для шмат якіх народаў з часоў старажытнасці спевы былі нечым большым. Гэта такая размова з духамі, альбо размова з Богам. Ствараецца вібрацыйная прастора, у якой ты знаходзішся як у іншым сусвеце, і гэта моцна аблягчае жыццё ці цяжкую працу, пазбаўляе мітрэнгаў, розум адпачывае, чалавек нібыта пераходзіць ва ўмоўную паралельнасць.

**— Але ў «Палаца» тое, што спявалі бабулі на вёсках, гучыць з мужчынскім голасам. Гэта прыцягвае.**

— Мне шмат разоў гаварылі: «Ты жаночым голасам спяваеш…» А каб вы паслухалі, як спявалі мужчыны на вёсках! А каб паслухалі, як спявалі мужчыны з жанчынамі, — ствараліся сапраўдная сувібрацыя. Калі спалучаліся мужчынскія высокія і нізкія галасы, і, дарэчы, былі яшчэ жаночыя нізкія галасы. Фальклорны спеў нізкім жаночым голасам — цяпер гэта ў Беларусі наогул рэдкасць, і ў папулярнай музыцы ён так і не з'явіўся. Але фальклорная мужчынская манера таксама была распаўсюджана. Вось толькі захавалася яна ў жанчын перадусім: мужчыны паміралі значна раней, гінулі падчас войнаў. Ды нават з чаркай далёка не кожнага мужчыну можна ўгаварыць праспяваць.

**— Затое ёсць жаданне слухаць такі спеў, калі згадаць досвед таго ж «Палаца». І тады песня працягвае жыць.**

— Так, таму важная папулярызацыя. Калі мы пайшлі ўглыб, то зразумелі, што народная песня (тое, што ішло ў гэтым кірунку) і фальклор — гэта дзве адрозныя з'явы ў нашай краіне. Адна фактычна вынішчыла другую. А як вярнуць? Толькі праз нейкія папулярныя механізмы. Можа быць, праз больш сучаснае гучанне, праз музычнае «хуліганства», новыя інструменты, электрычную апрацоўку. Каб аранжыроўка падкрэслівала метрарытміку. Бо кожны музыкант ведае, што такое памер, напрыклад, чатыры чвэрці. Але ў песні можа быць нейкае імгненне, якое тыя ж самыя ноты можа ператварыць у магію. Музыканты называюць гэта словам «грув». Электроншчыкі знайшлі, што гэта павінна быць, і зараз наўмысна крывяць электронныя гукі дзеля таго, каб злавіць такую вібрацыю, якая сапраўды чапляе. Музыкам-інструменталістам значна прасцей гэта знайсці. Калі разам пачынаюць граць, а ў нейкі момант адбываецца гэтае ўзаемапранікненне, яны ловяць грув і шалеюць ад радасці, як класна атрымліваецца. Гэта матэматыкай цяжка пралічыць…

**— Неаднойчы падчас вашых канцэртаў было адчуванне, што песні — нібыта энергетычныя субстанцыі. Энергетыка закладзена і ў саміх спевах, а інструменты яе ўзмацняюць. Можа, дзякуючы гэтай унутранай энергетыцы наша песня (і наогул культура) здолела захавацца?**

— Магутнасць фальклорнай культуры ў тым, што яна бессмяротная. Няважна, ідзеш ты ў гэтую рэчку ці не ўваходзіш. Яна самадастатковая. Гэта адчуваеш і на ўзроўні песні. Бывае, нешта дадаеш, і разумееш, што на твой погляд гэта прыгожа, а канструкцыя разбураецца. Маё жыццё — гэта барацьба за тое, каб не разбуралася канструкцыя песні. Мала таго, я ўжо гатовы будаваць канструкцыі, якія ствараюцца паводле нацыянальнай культуры. Але гэта даволі пакутлівы працэс: людзі альбом робяць, а я за гэты час — усяго чатыры такты… Насамрэч альбом можна зрабіць проста па тэхналогіях. Можа, прасцей трэба дзе-нідзе да гэтага ставіцца, але я ўжо не магу. І ўсё роўна напрыканцы спрэчны вынік. Некаторыя кавалкі нашай музыкі я б зараз перарабіў, а нейкія кавалкі мне настолькі падабаюцца, і я радуюся ад таго, што меў дачыненне да іх стварэння.

Мне здаецца, што я цяпер на мяжы, каб некалькі твораў ствараць у кантэксце аўтарскай песні. Аўтарскі фалькор — чаму не? Гэта з'ява ў свеце вельмі распаўсюджана, яна ўзнікла яшчэ на пачатку XX стагоддзя ў Амерыцы, дзе традыцыйныя кантры пачалі ствараць ужо аўтары. Бралі нейкія фігуры з традыцыйнага ірландскага фальклору, які быў захаваны на працягу XIX стагоддзя, і на падставе яго пісалі музыку пад сваімі імёнамі, таму што трэба было выдаваць плыты. У мяне ёсць жаданне ісці падобным шляхам. Ёсць шэраг песень у гэтым кірунку, створаных за апошні час, сярод іх сапраўды фальклорных — адзінкі.

**— Як выбіраеце, якую фальклорную песню трэба рабіць?**

— У мяне ёсць адчуванне таго, ці перажыла песня істотныя змены і наколькі моцнай магла быць яе трансфармацыя. Ці блізкая яна да першаснага варыянту? Асабліва вабіць песня, калі на яе не было моцнага ўплыву. Менш за ўсё пацярпелі ад зменаў песні, звязаныя з каляндарнымі абрадамі. Слухаеш і разумееш: відаць, жанчына напісала, потым хтосьці дадаў словы пра свой лёс, яшчэ хтосьці дадаў некалькі радкоў, а хтосьці потым забыў слова і ўставіў іншае — гэта вонкавыя дапрацоўкі. А ёсць нотныя, гукавыя рэчы, якія трансляваліся два-тры стагоддзі, — я адчуваю аўтэнтычнае, хоць і не хачу ўжываць гэтае слова. Раней яго ці не ў кожнай размове скарыстоўвалі, а цяпер наўмысна абмінаю: першаснасць, ці аўтэнтычнасць, — усё ж паняцце адноснае, калі мы гаворым пра фальклор, які жыве стагоддзі, а можа, і больш…

**— Але першасны склад «Палаца» збярэцца на канцэрце 4 красавіка, які мае на мэце адзначыць дзве адметныя даты: 25-годдзе гурта і 50-годдзе Алега Хаменкі?**

— Я разглядаю гэты канцэрт як сяброўскую справаздачу. Гэта павінна быць лёгка, гэта павінна быць святам для ўсяго «Палаца». Запрошаны ўсе, хто паўдзельнічаў у гурце ў розныя гады. Справаздача павінна быць для таго, каб жыць не ўспамінамі, а спядзяваннямі.

**Размаўляла**
**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Да апошняй дэталі…

## Выстаўка партрэтаў знакамітых дзеячаў беларускай культуры

**Цяпер амаль кожны, хто карыстаецца фотаапаратам, за адну хвіліну можа зрабіць сотню кадраў, а пасля спакойна адбіраць лепшыя. Раней уявіць такую сітуацыю было практычна немагчыма: фатографы прымудраліся ствараць цудоўныя здымкі з першага кадра, якія пасля ўваходзілі ў гісторыю. Так, напрыклад, здымкі знакамітага беларускага фатографа Юрыя Іванова можна назваць летапісам культуры нашай краіны. Праз гады іх можна пабачыць на персанальных выстаўках аўтара. Літаральна год таму фотамастак прадставіў выстаўку невядомых фотаздымкаў Уладзіміра Мулявіна, а сёлета ў сакавіку ў Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрыў фотапраект «Творцы», дзе дэманструюцца партрэты знакамітых дзеячаў беларускай культуры.**

На здымках Юрыя Іванова — яркія прадстаўнікі культурнага пантэона Беларусі: пісьменнікі Іван Мележ, Іван Шамякін, Кандрат Крапіва, кампазітары Эдуард Зарыцкі, Ігар Лучанок, Эдуард Ханок, мастакі Міхаіл Савіцкі, Гаўрыла Вашчанка, Андрэй Смаляк, дырыжоры Міхаіл Дрынеўскі, Рыгор Сарока, балетмайстар Валянцін Елізар'еў, оперная спявачка Тамара Ніжнікава, акцёр Расціслаў Янкоўскі і іншыя.


Расціслаў Янкоўскі.

Як кажа сам аўтар, праз партрэты ён імкнуўся перадаць энергетыку герояў, паказаць іх не толькі працавітымі, адданымі справе, алеж і ўсмешлівымі, добрымі, шчырымі... А гэта, дарэчы, не так і лёгка. Калі чалавек кожны дзень варыцца ў творчым катле, аддае сябе цалкам справе, кіруе людзьмі, то злавіць момант, калі ён расслаблены, спакойны, падуладна толькі прафесіяналу альбо вельмі блізкаму чалавеку. Юрый Іваноў адзначае, што фатаграфія зблізкала яго з людзьмі на працягу ўсёй прафесійнай дзейнасці. І сёння ў экспазіцыі прадстаўлены партрэты яго сяброў. Так, напрыклад, у 1965 годзе аўтар выстаўкі па загадзе газеты «Савецкая культура» здымаў Ігара Лучанка. Фотасесія праходзіла ў парку Янкі Купалы: побач з кампазітарам сядзеў невялічкі голуб, але здымак аказаўся няўдалы. І тут нечакана да Ігара Міхайлавіча падляцеў маленькі верабей... Так і атрымаўся знакаміты кадр, дзе, растрапаны, як той жа верабей, Ігар Лучанок усміхаецца. Майстру вельмі спадабаўся гэты фотаздымак, з таго часу ў Юрыя Іванова з'явіўся дарагі сябар.

Удалы партрэт можа атрымацца толькі тады, калі паміж фатографам і героем існуе павага і ўзаемаразуменне. А што тычыцца работы з дзеячамі культуры, то ўвогуле фатограф павінен прадумаць


Васіль Шаранговіч.


Максім Танк і Іван Шамякін.

фотаздымак да апошняй дэталі, каб у выніку не было крыўд і непаразуменняў.

Падчас адкрыцця выстаўкі ў сценах галерэі адбывалася важная падзея — сустрэча людзей, якія падарылі нам вялікую спадчыну. Кампазітары Эдуард Ханок і Эдуард Зарыцкі, балетмайстар Валянцін Елізар'еў, скульптар Іван Міско, дырыжоры Міхаіл Казінец і Віктар Бабарыкін і многія іншыя ахвотна пазіравалі побач са сваімі партрэтамі. У выніку творцы арганізавалі своеасаблівы флэшмоб — спрабавалі зрабіць дакладную копію партрэта ў жыцці.

Праект «Творцы» ўпершыню быў прадстаўлены Юрыем Івановым падчас урачыстай цырымоніі закрыцця Года культуры і рэспубліканскай акцыі «Культурная сталіца 2016 года» ў Палацы культуры Маладзечна. Юрый Іваноў плануе далей арганізоўваць падобныя экспазіцыі, напрыклад, сёлета задумаў праект, прысвечаны вучоным Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



**Калі вы хоць раз прыязджалі ў Жодзіна, то абавязкова праходзілі каля манумента ў гонар маці-патрыёткі Настассі Купрыянавай, які размешчаны ў самым сэрцы горада — побач з ажыўленай аўтамагістраллю Мінск — Масква, дзе адбываліся жорсткія баталіі Вялікай Айчыннай вайны. Помнік адкрыты ў 1975 годзе, яго аўтары — скульптары Андрэй Заспіцкі, Іван Міско, Мікалай Рыжанкоў і архітэктар Алег Трафімчук. У помніку ў абагульненай мастацкай форме ўвасоблены драматычны лёс жанчыны, пяць сыноў якой загінулі на франтах Другой сусветнай вайны.**

**Шасціфігурная кампазіцыя з бронзы складаецца з двух частак: мы бачым мужных сыноў, якія ідуць наперад, а маці глядзіць ім услед. Адразу заўважная прафесійная работа скульптараў. Гледзячы на манумент, складана стрымаць слёзы, — настолькі дакладна адлюстраваны боль, які адчувае маці за сваіх дзяцей. Уражваюць і маштабы скульптуры. Падчас стварэння помніка аўтары хацелі зрабіць акцэнт на аб'ёмнасці.**

**Каб убачыць помнік, у Жодзіна прыязджаюць людзі з розных рэгіёнаў краіны. Турыстычныя кампаніі арганізоўваюць экскурсіі па горадзе, у якія абавязкова ўключаны прагляд манумента. Помнік Купрыянавым прыцягвае турыстаў: магчымасць асэнсаваць гісторыю жыцця гераічнай сям'і. Жыхары горада прыводзяць маленькіх дзетак да скульптуры, расказваюць пра вайну і яе наступствы. А гэта сведчыць па тое, што народ не забывае пра подзвіг, які быў здзейснены дзеля сённяшняга мірнага жыцця.**

Вікторыя ДУБОВІК

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
23.03.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1624.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 978

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



